УДК 882.6-2
Я 62

«Будзь у тэме!»: дапаможнік па правах студэнтаў. / Карчэўская К., Ісаевіч Н. і інш. Пад рэд. Равякі Т. – Вільня, 2008 – 101 с.

У кнізе чытач знойдзе парады па вырашэнні ўсіх магчымых праблемных сітуацый для студэнтаў з прававога і практычнага пункту гледжання. Разглядаюцца такія актуальныя тэмы, як размеркаванне, вучоба за мяжой, праца падчас вучобы і г.д.

Зборнік створаны групай студэнтаў. Падбор матэрыялаў, нефармальная мова і мастацкае афармленне дазволяць лёгка ўспрыняць усю інфармацыю і дапамогуць знайсці адказы на пытанні.

Зваротная сувязь: chris.gomel@gmail.com.

УДК 882.6-2

ISBN 998-6951-98-2

(c) Карчэўская К., Ісаевіч Н. і інш.

# ЗМЕСТ










# УСТУП



У гэтай кнізе мы паспрабавалі сабраць самае істотнае, што тычыцца студэнтаў і студэнцтва, каб спрасціць жыццё сучаснай беларускай моладзі. Тут будзе ўсяго патроху, але самае важнае і карыснае: пра вышэйшую адукацыю ў Беларусі і за мяжой, пра студэнцкія інтэрнаты, пра актуальнае размеркаванне, пра платную адукацыю і шмат чаго яшчэ.

Гэта кніга напісана студэнтамі пра студэнтаў: мы спадзяемся, нам удалося тое, што першапачаткова задумвалася як дапаможнік па правах студэнтаў. Мы паспрабавалі знайсці ўсю самую неабходную для вас інфармацыю і пераўтварыць яе ў чытабельныя і цікавыя матэрыялы, бо, калі патрэбна даведацца, “а што там у законе”, 80% звычайных студэнтаў не дачытваюць і да паловы.

Папярэджаны – значыць узброены: лепей ведаць свае правы, чым дазваляць камусьці карыстацца адсутнасцю ў цябе гэтых ведаў. Быць дасведчаным у нашы часы – гэта каштуе дарагога. Гэта значыць, прынамсі, вучыцца быць Грамадзянінам.

# КОЛЬКІ СТУДЭНТАЎ У БЕЛАРУСІ...





Колькасць студэнтаў у Беларусі ў 2007/2008 годзе склала 413 658 чалавек (у 2006/2007 – 396 910 чалавек) або звыш 425 студэнтаў на 10 000 насельніцтва, што з'яўляецца адным з самых высокіх паказчыкаў у Еўропе.

Аднак тут, магчыма, недзе Беларусь бярэ не якасцю, а колькасцю, бо дагэтуль існуе праблема нізкай якасці завочнай адукацыі ў некаторых ВНУ, пры тым што каля паловы беларускіх студэнтаў атрымоўваюць адукацыю менавіта завочна.

У бліжэйшых планах Мінадукацыі – скарачэнне набору на юрыдычныя, педагагічныя спецыяльнасці. У 2007 годзе быў скарочаны прыём студэнтаў-бюджэтнікаў: на юрыдычныя спецыяльнасці – на 15%, эканамічныя – на 18%, на некаторыя педагагічныя спецыяльнасці – да 25%. У той жа час уведзена 15 новых спецыяльнасцяў, сярод якіх – «Будаўніцтва цеплавых і атамных электрастанцый», «Нанатэхналогіі» і г.д.

Паводле дадзеных Мінадукацыі, у 2007 годзе ў ВНУ было



залічана 89 758 студэнтаў, у тым ліку ў дзяржаўныя ВНУ – 75 249 чалавек (у 2006 годзе – 71 565).



Зараз выпускнікі 12-гадовай школы павінны свабодна валодаць адной з еўрапейскіх або азіяцкіх моў. У Беларусі ў бліжэйшы час будуць патрэбныя працаўнікі будаўнічых спецыяльнасцяў з ведамі іспанскай мовы, аднак у краіне яе вывучаюць толькі 1,7 тыс. чалавек.



У Беларусі створана двухузроўневая структура падрыхтоўкі спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй: базавая (4–6 гадоў) і магістэрская (1 год).





Для студэнтаў з замежжа, што маюць дыпломы бакалаўраў, арганізавана магістэрская падрыхтоўка па індывідуальных планах з двухгадовым тэрмінам навучання. Падрыхтоўка спецыялістаў з вышэйшай адукацыяй здзяйсняецца па 360 спецыяльнасцях.



У 2006 годзе створаны Палескі дзяржаўны універсітэт, а напрыканцы 2006 года пачалася падрыхтоўчая праца па пераўтварэнні Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі ў адукацыйна-навукова-інавацыйны комплекс.





# ...І КОЛЬКІ ЗА МЯЖОЙ?

Па інфармацыі міністэрства, прынамсі 340 беларускіх студэнтаў зараз вучацца ў замежжы – такой колькасці студэнтаў былі выдадзеныя афіцыйныя дазволы на выезд.

1962 беларускія студэнты накіраваліся вучыцца, удзельнічаць у спартыўных, культурніцкіх і іншых мерапрыемствах у 33 краіны свету.

Аднак 22 грамадзянам было адмоўлена ў пісьмовым дазволе скарыстацца сваім правам, гарантаваным артыкулам 30 Канстытуцыі РБ: пакідаць тэрыторыю Рэспублікі Беларусь і вяртацца без перашкод. Прычына: «невыкананне патрабаванняў нарматыўна-прававых дакументаў па частцы пацверджання статусу навучальнай установы, тэрмінаў і пераліку дакументаў, якія былі пададзеныя».

Працаваць за мяжу выехалі 1448 студэнтаў. З іх своечасова не вярнуліся 149: 135 былі адлічаныя, 14 спазніліся.

# САМЫ СТУДЭНЦКІ РЭГІЁН ЕЎРАЗВЯЗА

Такім рэгіёнам стала сталіца Чэхіі. У Празе на 100 жыхароў ва ўзросце 20–24 гады прыпадае 150 студэнтаў. Яшчэ ў сямі мясцовасцях Еўрапейскага звяза стварылася падобная сітуацыя, калі агульная колькасць студэнтаў большая за колькасць моладзі студэнцкага ўзросту.



Другім горадам з самай шчыльнай канцэнтрацыяй студэнтаў па выніках даследавання стала Вена з лічбай 126. Трэцяе месца заняў Брусель са 120 студэнтамі на 100 жыхароў горада ва ўзросце 20–24 гады.

# ТРОШКІ ГІСТОРЫІ

## МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ СТУДЭНТА



17 лістапада 1939 года ў адказ на шматтысячную дэманстрацыю студэнтаў супраць фашысцкіх акупантаў па загаду Гітлера былі зачыненыя чэшскія універсітэты. Больш за 1200 студэнтаў патрапілі ў канцлагер. З тых часоў дзень 17 лістапада стаў сімвалам студэнцкіх грамадскіх дзеянняў і салідарнасці. У 1941 годзе ў Лондане на міжнароднай сустрэчы студэнтаў, якія змагаліся з фашызмам, дзень17 лістапада быў абвешчаны Міжнародным днём студэнта ў памяць аб студэнтах – героях Супраціву.

Таццянін дзень, 25 студзеня, таксама лічыцца днём студэнтаў. 12 студзеня (а па новым стылі якраз 25 студзеня) 1755 года імператрыца Елізавета II падпісала ўказ «Аб заснаванні Маскоўскага універсітэта». З тых часоў гэты дзень










лічыцца на постсавецкай прасторы (хаця раней ён адзначаўся толькі ў Маскве) Днём студэнта, а святая Таццяна – заступніцай студэнтаў. Яго пачалі адзначаць толькі ў 60–70-я гг. XIX ст., а раней з гэтага дня пачыналіся студэнцкія вакацыі. Афіцыйнае святкаванне Дня студэнта мела традыцыі і рытуал – падчас урачыстых актаў гучалі віншаванні і ўручаліся ўзнагароды.

# А Ў БЕЛАРУСІ ЯШЧЭ РАНЕЙ!



Пачатак вышэйшай адукацыі ў Беларусі быў пакладзены заснаваннем 17 ліпеня 1570 года Віленскай іезуіцкай калегіі.

1 красавіка 1579 года датуецца прывілей караля Стэфана Баторыя, паводле якога іезуіцкая калегія была рэарганізавана ў акадэмію і універсітэт (Almae Academia et Universitas Vilnensis Societatis Jesu). Першым рэктарам быў Пётр Скарга. Першапачаткова універсітэт складаўся з двух факультэтаў – філасофіі і тэалогіі. У 1641 годзе быў заснаваны факультэт права.

Да заснавання ў 1755 годзе Маскоўскага універсітэта на працягу двух стагоддзяў Віленскі універсітэт быў адзіным ва Усходняй Еўропе.

З-за прамога ўдзелу ці ўскоснай прыналежнасці студэнтаў і выкладчыкаў да паўстання 1831 года рэскрыптам Мікалая I 1 траўня 1831 года універсітэт быў зачынены, а пасля Першай сусветнай вайны паводле ўказа Юзэфа Пілсудскага 28 жніўня 1919 года універсітэт у Вільні быў адчынены зноў.

# ПРАВА НА АДУКАЦЫЮ Ў БЕЛАРУСІ




**Канстытуцыя** – галоўны падмурак сістэмы адукацыі, і артыкул 49 яе ўстанаўлівае: «гарантуецца даступнасць і бясплатнасць агульнай сярэдняй і прафесійна-тэхнічнай адукацыі. Сярэдняя спецыяльная і вышэйшая адукацыя даступна для ўсіх у адпаведнасці са здольнасцямі кожнага. Кожны можа на конкурснай аснове бясплатна атрымаць адпаведную адукацыю ў дзяржаўных навучальных установах». Даступнасць у тым сэнсе, у якім яна гарантуецца Канстытуцыяй, азначае, што ўсе асобы, што жывуць на тэрыторыі Беларусі (нават тыя, хто прыехаў з-за мяжы, асобы без грамадзянства, што пастаянна жывуць на тэрыторыі нашай краіны), маюць роўныя магчымасці доступу да нацыянальнай сістэмы адукацыі.



## ЗАКОН РБ «АБ АДУКАЦЫІ»

### Структура вышэйшай адукацыі і тэрміны навучання

Вышэйшая адукацыя падзяляецца на першую ступень (4–5 гадоў у залежнасці ад спецыяльнасці) і другую, або магістратуру (дадатковых 1–2 гады, якія даюць права на навучанне ў аспірантуры). Вядома, што вышэйшую адукацыю можна атрымаць у дзённай і завочнай (і дыстанцыйнай) форме, за выключэннем некаторых спецыяльнасцяў, атрымліваць якія можна толькі ў дзённай форме. Гэта звязана з вялікай колькасцю практычных дысцыплін, без якіх, уласна кажучы, паўнавартасны спецыяліст не атрымаецца (напрыклад, медыцынскія спецыяльнасці, фізіка).



## Тыпы ВНУ



• Класічны універсітэт (падрыхтоўка на двух ступенях адукацыі, даследчая праца);

• Профільны універсітэт (акадэмія, кансерваторыя);



• Інстытут (адзін ці некалькі профіляў, прыкладныя даследаванні);

• Вышэйшы каледж (толькі першая ступень адукацыі).



Цікава зазначыць, што паводле Закона «Аб адукацыі» ніхто не адмяняў права на выбар дзяржаўнай мовы навучання! Рэалізацыя гэтага права мусіць забяспечвацца шляхам стварэння ў ВНУ беларускамоўных і рускамоўных груп (патокаў).



## Важна ведаць!



Калі цябе раптам адлічваюць, то замест дыплома табе выдаецца даведка аб выніках праходжання навучання па спецыяльнасці, але не забывайся на тое, што паняцця “няскончаная вышэйшая адукацыя” ў нашай краіне не існуе! Гэта значыць, што калі ты кінеш універсітэт, то ў графе “адукацыя” пры паступленні на працу ў працоўнай кніжцы табе запішуць “сярэдняя”. Тое ж тычыцца тых, хто не здолеў абараніць дыплом. Але яны, натуральна, маюць права на пераздачу.





## Пра чырвоны дыплом

Калі ты добра вучышся і разлічваеш на чырвоны дыплом, прасачы, каб у тваёй залікоўцы не было адзнак ніжэй за 7 і каб было не менш за 75% выдатных адзнак (10 і 9): толькі пры гэтай умове ты яго атрымаеш. А калі ты вучышся ў вайсковай ВНУ, то акрамя дыплома табе выдадуць яшчэ і залаты медаль.

## Пару слоў пра статуты універсітэтаў

Студэнты маюць шэраг правоў і абавязкаў у адпаведнасці з Законам “Аб адукацыі” і – увага! – у адпаведнасці са Статутам alma mater. Цікава, што гэты самы Статут – дакумент даволі загадкавы. Пры пошуках і спробах атрымаць яго ў бібліятэцы ці ў дэканаце чамусьці многім адказваюць, што ён “для ўнутранага карыстання” і што “на рукі вам ніхто яго не дасць”. Цікава



атрымліваецца: гэта тое ж самае, што хаваць ад грамадзяніна Канстытуцыю! Пры падрыхтоўцы гэтай кнігі мы змаглі раздабыць лічаныя статуты: Гомельскага дзяржаўнага універсітэта, Беларускага дзяржаўнага універсітэта, Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта, Акадэміі кіравання і Гомельскага медыцынскага універсітэта.

І было б там што хаваць! Пры дэтальным разгледжанні ад 10 да 22 старонак розных статутаў, нічога крамольнага не было знойдзена. Пры гэтым у Статуце БДУ мы знайшлі запіс пра тое, што навучанне вядзецца на беларускай і рускай мовах і за невыкананне Статута адказны рэктар універсітэта. Дарэчы, у Статуце Акадэміі кіравання пра мовы ніводнага слова...

## Правы студэнтаў

Студэнты маюць права на[1]:



• атрыманне вышэйшай адукацыі ў адпаведнасці з адукацыйнымі стандартамі;

• перавод у іншую вышэйшую навучальную ўстанову;

• перавод на навучанне па іншай спецыяльнасці;

• перавод на іншую форму атрымання вышэйшай адукацыі;

• аднаўленне ў ВНУ для ўзнаўлення навучання;

• атрыманне дадатковых адукацыйных паслуг;

• удзел у навуковай, навукова-тэхнічнай і інавацыйнай дзейнасці ВНУ;

• стварэнне і абранне органаў студэнцкага самакіравання, згуртаванне ў прафесійныя саюзы, моладзевыя і іншыя грамадскія аб’яднанні, дзейнасць якіх не супярэчыць заканадаўству РБ;

• абарону сваіх правоў і законных інтарэсаў;

• абскарджанне рашэнняў адміністрацыі і службовых асоб ВНУ;

• забеспячэнне стыпендыяй;










• медыцынскае абслугоўванне і аздараўленне;

• забеспячэнне месцамі ў інтэрнатах і часовай рэгістрацыяй;

• пакрыццё выдаткаў па аплаце жылля ў выпадку незабеспячэння месцамі ў інтэрнатах (студэнты, што навучаюцца за кошт сродкаў рэспубліканскага бюджэту);

• матэрыяльнае і маральнае стымуляванне поспехаў у навучальнай, грамадскай і навукова-даследчай дзейнасці;

• ільготны крэдыт для аплаты першай вышэйшай адукацыі;

• акадэмічныя адпачынкі – па медыцынскіх паказаннях, фінансавых і іншых прычынах ва ўстаноўленым парадку;

• вакацыі, якія прадастаўляюцца не менш за 2 разы на навучальны год агульнай працягласцю ад 6 да 10 тыдняў;

• адтэрміноўку ад прызыву на тэрміновую ваенную службу, службу ў рэзерве на час навучання, вызваленне ад праходжання ваенных і спецыяльных збораў;



• навучэнне па індывідуальных навучальных планах у межах адукацыйных стандартаў;

• удзел у кіраванні ўстановай адукацыі праз дзейнасць у органах самакіравання;

• свабоднае наведванне мерапрыемстваў, што праводзяцца ўстановамі адукацыі для навучэнцаў і выхаванцаў па-за навучальным планам.

Акрамя таго, навучэнцы, якія атрымліваюць адукацыю за кошт сродкаў бюджэту, маюць права на:

• бясплатнае карыстанне інфармацыйнымі рэсурсамі

бібліятэк, навучальнай, вытворчай, навуковай і культурна-спартыўнай базай установы адукацыі;

• карыстанне ў парадку, устаноўленым Законам, падручнікамі, навучальнымі дапаможнікамі, іншай літаратурай, неабходнай для атрымання адукацыі.

## Абавязкі студэнтаў

Студэнты павінны:

• выконваць у вызначаныя тэрміны патрабаванні навучальных планаў і праграм;

• прытрымлівацца Статута, правіл унутранага распарадку і правіл пражывання ў інтэрнаце ВНУ;

• падчас праходжання практыкі прытрымлівацца патрабаванняў, усталяваных для супрацоўнікаў адпаведных арганізацый, у тым ліку па ахове працы і тэхніцы бяспекі;

У якасці дысцыплінарных мер тым, хто не выконвае абавязкі, можа быць вынесена заўвага, вымова і, натуральна, могуць і адлічыць з ВНУ. Праўда, толькі падчас семестра: на вакацыях прымяненне гэтых мер не дапускаецца.



**Юрась Пятухоў, аспірант БДУІР:**



*– Як мне вядома, вышэйшая адукацыя ў большай ступені грунтуецца на новым законе аб вышэйшай адукацыі, што выйшаў месяцаў 8 таму. Цалкам не чытаў, так што агульнага меркавання выказаць не магу. Чытаў толькі асобныя пункты, датычныя магістратуры. Гаворыцца, што магістратура зараз дае права паступлення ў аспірантуру, гэта значыць, што цяпер адразу пасля выпуску туды ўжо не пойдзеш. Няма больш-менш яснага тлумачэння, з'яўляецца «магістр нейкіх там навук» ступенню ці званнем.*












# ТРОШКІ ПРА ІСПЫТЫ І ЗАЛІКІ Ў ВНУ[2]



Кожны студэнт павінен здаць залікі з іспытамі ў вызначаны тэрмін. Магчыма, не ўсе ведаюць наконт дадатковых дысцыплін: калі студэнт мае жаданне здаць нейкія факультатыўныя дысцыпліны ці семінары, то па яго жаданні вынікі здачы заносяцца ў заліковую кніжку і ў дадатак да дыплома.

Калі ты добра вучышся і маеш жаданне здаць нейкія дысцыпліны датэрмінова, дэканат можа даць на гэта дазвол, але без вызвалення ад бягучых заняткаў і пры ўмове своечасовай здачы практычных работ і залікаў. Студэнты завочнай формы навучання маюць магчымасць здаваць залікі і іспыты па меры гатоўнасці па любой дысцыпліне.

Расклад іспытаў складаецца з такім разлікам, каб на падрыхтоўку па кожнай дысцыпліне давалася, як правіла, не меней 3–4 дзён. Прымаць іспыты могуць толькі лектары патоку, прыём іспытаў асістэнтамі забаронены. Таксама забаронена прысутнасць на іспытах і заліках староннiх асоб без спецыяльнага дазволу.

З вышэйшай навучальнай установы могуць быць выключаны студэнты, якія маюць акадэмічную запазычанасць: калі яны не здалі ў сесію іспыты па, як мінімум, трох дысцыплінах, калі не ліквідавалі ў вызначаны тэрмін акадэмічныя запазычанасці (залікі), калі не выканалі праграмы вытворчай практыкі або атрымалі нездавальняючую адзнаку па абароне справаздачы аб праходжанні практыкі і маюць дзве нездавальняючыя адзнакі па курсавых работах.

Пераздача іспыта з нездавальняючай адзнакай ў перыяд

іспытавай сесіі, як правіла, не дапускаецца. Толькі пры асаблівых абставінах дэкан можа даць на гэта дазвол. Пераздача нездавальняючай адзнакі дапускаецца не больш за два разы, далей – з дазволу дэкана або студэнта чакае выключэнне.

Паўторнае навучанне студэнтаў без аплаты дапускаецца ў выпадку выключэння не больш за два разы за ўвесь тэрмін знаходжання ў ВНУ.

Экстэрны здаюць іспыты і залікі па ўсіх дысцыплінах. У выпадку, калі прадугледжана вывучэнне дысцыплін на працягу некалькіх семестраў, студэнт мае права здаваць залікі і іспыты па праграме кожнага семестра або цалкам па дысцыпліне. Пераздача экстэрнам нездавальняючай адзнакі па адным і тым жа іспыце (заліку) дапускаецца не больш за два разы. Для прыёму пераздачы на кафедры прызначаецца камісія.

**Яўген Барышнікаў, скончыў БДУІР:**



– «Члены БРСМ есть? Давайте зачетки»– было такое :((. *Быў у нас яшчэ адзін камрад з групы, які з першага курса «актыўнічаў» пры дэканаце. Лыка вязаў слаба (у плане спецухі), на заняткі забіваў. Але на іспыты-залікі прыходзіў з намеснікам дэкана, і той казаў прэпаду нешта кшталту: «Ну вы панімаеце, он был заняты пры дэканаце, бла-бла-бла». Калі прэпад не надта ўпарты і прынцыповы, чувак атрымліваў свой залік і сыходзіў шчаслівы. Актывіст, ага. Але ці спецыяліст?*





# ПЛАТНАЯ ВЫШЭЙШАЯ АДУКАЦЫЯ[3]




З платнай адукацыяй зразумела: калі пры паступленні ты не дабіраеш дастатковую колькасць балаў, ты маеш шанец усё ж патрапіць на абраную спецыяльнасць, але ўжо за грошы. Кошты платнай адукацыі вызначаюцца палажэннямі, пастановамі і г.д., даецца шмат фармулёвак, як яны фаміруюцца, але адказу на пытанне «Чаму менавіта столькі?» мы так і не знайшлі. Кошты













на розных спецыяльнасцях, розных формах навучання – розныя, для беларусаў і замежных грамадзян – таксама.




Цікавую гісторыю распавяла студэнтка аднаго з факультэтаў БДУ. Аказваецца, спалучэнне слоў «платная адукацыя» зараз шмат каго прыводзіць у нервовы стан у сувязі з хаатычным шматразовым павышэннем коштаў адукацыі за ўвесь тэрмін навучання.

**Алена Новікава, 4-ы курс БДУ, фізічны факультэт БДУ:**



*– Першапачаткова маё навучанне каштавала 750 долараў за семестр. Але мая маці з'яўляецца супрацоўнікам БДУ, а для іх існавалі льготы па аплаце 50%: гэта значыць, плацілі мы рэальна толькі палову, каля 300 долараў. Потым мне за добрую вучобу знізілі кошт навучання на 10–15%. Але неўзабаве, увосень 2006 года, усе зніжкі скасавалі, і маім бацькам прыйшлося плаціць «па поўнай праграме», плюс павысілі кошты навучання – у выніку атрымалася нешта каля 1000 долараў за семестр. Прычым дамова была складзена вельмі хітра: было пазначана, што «універсітэт мае права карэкціраваць кошты на працягу ўсяго тэрміну навучання». Я падпісала, і пасля гэтага прыйшлося падпісваць 3 ці 4 дадатковыя пагадненні ў дадатак да дамовы, паводле якіх кошт навучання павялічваўся. І не на 20–30 тысяч, а вельмі адчувальна: на Br 200–300 тыс. (каля 100–150 долараў за кожны раз). І вось за апошні навучальны год з новага года (2008 г.) кошт ізноў узняўся за 3 месяцы на Br 700 тыс. (каля $ 330). Цяпер мы плацім Br 2 700 000 за семестр (каля $ 1300)".*

Некаторыя да бюджэтнага навучання ставяцца са скепсісам: маўляў, лепей заплаціць, чым потым 2 гады быць рабом (гэта пра размеркаванне). Тут таксама ёсць рацыя, але ўсё ж не ўсе могуць дазволіць сабе платнае навучанне. Заўважым, дарэчы, для тых, хто не ведае: бюджэтнае навучанне – гэта такая казка, якая засталася нам з савецкіх часоў. Ва ўсіх еўрапейскіх і іншых

цывілізаваных краінах такога паняцця, як “бясплатная адукацыя” ў тым сэнсе, у якім яго разумеем мы, не існуе. У Нямеччыне, напрыклад, да 2008 года існавала бясплатная адукацыя, але стыпендыя не выплачвалася. Зараз адукацыя там каштуе каля 600–700 еўра за семестр. Там усё проста і па правілах капіталізму: ты за ўсё плаціш, але ты маеш пэўныя гарантыі і правы. Найбольш паспяховыя студэнты могуць атрымліваць стыпендыю ці нейкія іншыя бонусы з розных фондаў, але там вынікі падводзяцца кожны семестр, і гэта значыць, што ў цябе заўсёды вельмі добры стымул вучыцца. У нас жа ўсё інакш: мы вучымся за кошт дзяржавы, але ступень падрыхтоўкі недзе можа і не адпавядаць коштам, і змагацца з гэтым надзвычай цяжка. Але гэта тэма для асобнай вялікай размовы.



**Юрась Пятухоў, аспірант БДУІР:**

***– Платная VS бясплатная адукацыя?***

*– Пытанне няпростае. З аднаго боку, канцэпцыя масавай вышэйшай адукацыі, што гэтак моцна сілкуецца бясплатнай адукацыяй, спрыяе сацыяльнаму паразітызму – людзі паступаюць і вучацца для корачкі, з іх не атрымоўваецца высокакласных спецыялістаў. З іншага боку, платная адукацыя ў сучаснай Беларусі не мае такога статусу ў масавай свядомасці, як у заходніх краінах. Тут гэта ператвараецца ў набыццё дыплома ў крэдыт тэрмінам пяці гадоў. Зноўку ж выходзіць паразітызм, толькі ў меншай фінансавай ступені (сучасныя платнікі аплачваюць толькі 40–50% рэальнага бюджэтнага кошту). Таму поўны пераход да адной з гэтых формаў навучання не здымае праблемы «дыпламаваных бараноў». Найбольш аптымальным метадам у цяперашні перыяд, на мой погляд, было б скарачэнне колькасці месц у ВНУ як на бюджэтнае, так і на платнае навучанне. Таксама варта больш увагі надаваць зместу і якасці адукацыі. І вось толькі тады, калі ўсталюецца нармальны баланс паміж колькасцю абітурыентаў і выпускнікоў-прафесіяналаў, колькасць месц можна зноў павялічваць. Таксама варта ўсё ж змяняць спектр спецыяльнасцяў ВНУ у адпаведнасці з праблемамі і патрэбамі сучаснага грамадства.*





# ПЕРАВОД З ПЛАТНАГА НА БЯСПЛАТНАЕ[4]









Перавод студэнтаў з платнага на бясплатнае адбываецца пры наяўнасці вольных бюджэтных месц у перыяд да 14 верасня шляхам абвяшчэння рэктарам конкурсу. У конкурсе могуць удзельнічаць тыя, хто навучаецца за плату на «выдатна» і дасягнуў высокіх паказчыкаў у навукова-даследчай дзейнасці і грамадскай працы (БРСМ, прафкам, конкурсы самадзейнасці і г.д.).

Выдатнікамі з'яўляюцца студэнты, што маюць па выніках папярэдняга года не менш за 75% адзнак 10 і 9, а астатнія адзнакі – не ніжэй за 7 балаў.

Заяву аб удзеле ў конкурсе студэнты падаюць на імя кіраўніка ўстановы адукацыі ў пяцідзённы тэрмін са дня абвяшчэння загаду аб конкурсе праз кіраўніка факультэта ўстановы адукацыі. Разглядае гэтыя дакументы спецыяльная камісія, ацэньвае вас як асобу і студэнта, а потым перадае рэктару прапановы па кандыдатурах.



**Вера Янушэўская, студэнтка 4-га курса БНТУ:**

*– У БНТУ з мінулага года ўсе правілы пераходу на бясплатнае навучанне, атрыманне зніжак і іншае з'яўляюцца адзінымі для ўсёй ВНУ. Пра пераход на бюджэт – рэальныя выпадкі мне невядомыя, бо каб некага перавялі, патрэбна вольнае бюджэтнае месца, а іх мала. Але тэарэтычна гэта магчыма: патрэбны супер-адзнакі (не ніжэй за 7), удзел у канферэнцыях, навуковыя публікацыі, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці, абавязкова быць у БРСМ, удзел у іх справах (патрабуецца пісьмовае пацвярджэнне старшыні!), удзел у спартыўным жыцці (таксама неабходны даведкі пра гэта ўсё). І яшчэ ёсць цікавая дэталь: калі на іншым факультэце адкрываецца свабоднае бюджэтнае месца, то ты можаш перайсці туды пры ўмове, што ты згодны на першы курс! Але, як правіла, прэстыжнага ў такім выпадку нічога не прапаноўваюць... Што тычыцца зніжак, то крытэрыі тыя ж, у прынцыпе.*

# ЗНІЖКІ ПА АПЛАЦЕ НАВУЧАННЯ[5]

Каб атрымаць зніжку і вызначыць яе памер па пэўнай катэгорыі, трэба, каб адзнакі студэнта адпавядалі наступнай шкале:

| Сярэдні бал паспяховасці | Памер зніжкі (у адсотках ад сфармаванага кошту навучання), % |
|---|---|
| 7,46 – 8,25 | 20 |
| 8,25 – 9,0 | 40 |
| 9,0 – 10 | 60 |

Атрымаць зніжку могуць не толькі выдатнікі ды БРСМаўцы. Існуе іншая катэгорыя студэнтаў. Да яе адносяцца:

1. Члены малазабяспечаных сем'яў, гэта значыць сем'яў, якія маюць па аб'ектыўных прычынах сярэдні даход на кожнага ніжэй за бюджэт пражытачнага мінімуму;

2. Дзеці-сіроты, дзеці, якія засталіся без апекі бацькоў, а таксама асобы ва ўзросце ад 18 да 23 гадоў, што страцілі апошняга з бацькоў у перыяд навучання;

3. Дзеці ваеннаслужачых, асоб радавога і кіруючага саставу органаў унутраных спраў, органаў і падраздзяленняў па надзвычайных сітуацыях і органаў фінансавых расследаванняў, загінуўшых (памерлых) або сталі інвалідамі пры выкананні абавязкаў вайсковай службы (службовых абавязкаў), рабочых, якія абслугоўвалі ваенныя кантынгенты ў Афганістане або іншых дзяржавах, дзе вяліся баявыя дзеянні – загінуўшых (памерлых) або тых, што сталі інвалідамі ў перыяд вядзення баявых дзеянняў;



4. Інваліды І, ІІ і ІІІ груп, дзеці-інваліды ва ўзросце да 18 гадоў;

5. Асобы, што маюць ільготы або асобы ва ўзросце да 23 гадоў, якія ня маюць уласнай сям'і, бацькі якіх маюць ільготы, у адпаведнасці з артыкуламі 18–20, 23–25 Закона Рэспублікі Беларусь ад 22 лютага 1991 года "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, якія пацярпелі ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС";










6. Асобы з сем’яў, у якіх выхоўваюцца 3 і больш непаўналетніх дзяцей.

Зніжкі для гэтай катэгорыі студэнтаў і навучэнцаў даюцца ў памеры 40% ад сфармаванага кошту навучання пры ўмове атрымання па ўсіх прадметах адзнак не ніжэй за 6 балаў, уключаючы адзнакі па выніках здачы іспытаў, дыферэнцыраваных залікаў, курсавых работ і праектаў, усіх відаў практык, прадугледжаных навучальным планам, адзнак па не вынесеных на іспытавую сесію дысцыплінах за навучальны год.



Зніжкі даюцца пачынаючы з 2-га курса навучання тэрмінам толькі на адзін навучальны год (з 1 верасня). Але фактычна зніжкі даюцца на перыяд у 1 семестр, бо яны адмяняюцца за атрыманне нездавальняючых адзнак у выніку іспытавай сесіі або за парушэнне правіл унутранага распарадку і грамадскага парадку.

Студэнты, якія маюць акадэмічную запазычанасць напрыканцы навучальнага года, не маюць права на атрыманне зніжкі.

# ВУЧОБА ЗА МЯЖОЙ

## НАВОШТА НАМ ЗАМЕЖНАЯ АДУКАЦЫЯ?

Варта нагадаць, што адным з беларускіх студэнтаў, які навучаўся за мяжой, быў наш славуты першадрукар Францыск Скарына. Навучаўся ён не абы-дзе, а ў Падуанскім універсітэце: у яго часы не было ні Баранавічскага, ні Палескага ўніверсітэта з вышэйшай адукацыяй на радзіме было зусім блага.

Зараз для большасці студэнтаў, якія вырашылі ехаць вучыц-




ца за мяжу, на першым месцы — якасць адукацыі. Асабліва для тых, хто мае высокую паспяховасць. Амаль палова матывуюць сваё рашэнне жаданнем пашырыць досвед і палепшыць кар'ерныя шанцы. Трэць пазначылі таксама жаданне палепшыць веданне замежнай мовы, атрымаць прэстыжную спецыяльнасць, доступ да навукова-даследчай базы.

І хаця на рашэнне студэнтаў кошт адукацыі ўплывае не ў першую чаргу, менавіта гэты фактар прыносіць найбольш турбот: пытанне, як аплаціць вучобу, хвалюе 86%. Не менш сур'ёзным з'яўляецца і пытанне, як пражыць у чужой краіне: яно хвалюе 80%.



За грашовымі клопатамі — туга па дому (адзначылі 28% студэнтаў). Далей — хваляванне пра ўзровень ведання замежнай мовы — карацей моўны бар'ер. Больш за чвэрць баіцца, што будзе складана вучыцца.

У тых, хто, нягледзячы на ўсе хваляванні, усё ж вырашыў ехаць па дыплом у іншую краіну, найбольшай папулярнасцю карыстаюцца наступныя спецыяльнасці. Бізнес абралі трэць апытаных. На другім месцы — інжынерныя і IT-спецыяльнасці. Пасля іх — медыцына, мастацтва, дызайн і камунікацыі.










# БЕЛАРУСЬ НА АДУКАЦЫЙНАЙ АРЭНЕ

Як было зазначана раней, толькі афіцыйных дазволаў ад Міністэрства адукацыі на навучанне па-за межамі Беларусі ў 2007 было атрымана 370. Акрамя гэтага, 1962 беларускія навучэнцы накіраваліся вучыцца, удзельнічаць у спартыўных, культурніцкіх і іншых мерапрыемствах у 33 краіны свету. Адмову на выезд за мяжу атрымалі 22 асобы.

Аднак асноўная частка беларусаў выпраўляецца вучыцца ў іншыя краіны без дазволу Міністэрства адукацыі.

Расце і колькасць студэнтаў-замежнікаў у Беларусі. Праўда, пасля закліку міністра адукацыі да рэктараў «кінуць гэтыя дэмакратычныя штучкі» колькасць замежных студэнтаў, якія бавяць навучальны час у студэнцкай сталоўцы, можа змяншыцца — нагадаем, што складанасць навучальнага працэсу ёсць адной з галоўных турбот студэнтаў.

У сваю чаргу, у 2007г. былі выдадзеныя 168 заключэнняў аб прызнанні замежных дыпломаў: пераважна грамадзянам Расіі і Польшчы. Таксама ў спісе жадаючых працаваць або вучыцца ў Беларусі і адпаведна тых, хто пацвярджаў свае дыпломы, — жыхары Украіны, краін Балтыі, Англіі, ЗША, Ірака, Іспаніі.

Па афіцыйных дадзеных, Беларусь становіцца ўсё больш прыцягальнай для студэнтаў з іншых краін свету. Аднак казаць пра канкурэнтаздольнасць беларускай адукацыі на міжнародным рынку без далучэння Беларусі да Балонскага працэсу нельга. Больш таго, можна чакаць адтоку студэнтаў за мяжу, асабліва тых, хто жадае атрымоўваць прэстыжныя спецыяльнасці. Калі Міністэрства адукацыі працягне выкарыстанне «адміністратыўнага рэсурса» для абмежавання доступу да вышэйшай адукацыі, а вучыцца ў Беларусі стане яшчэ даражэй, прасцей будзе атрымаць больш прэстыжны замежны дыплом, які да таго ж будзе прызнавацца ва ўсім свеце.

# ВЫЕХАЦЬ НА ВУЧОБУ БЕЗ ПРАБЛЕМ?[6]



Справа ў тым, што Беларусь змагаецца з гандлем людзьмі, таму клапоціцца аб сваіх маладых грамадзянах асабліва моцна. Для рознага кшталту выездаў за мяжу (неабавязкова адукацыйных!) неабходны дазвол Міністэрства адукацыі. Атрымліваць такі дазвол трэба не толькі гаротным студэнтам, але і школьнікам, гімназістам, ліцэістам, аспірантам, а таксама мадэлям (дэманстратарам вопраткі) і некаторым прыватным прадпрымальнікам.

Накіраванне грамадзян, што навучаюцца ў арганізацыях сістэмы адукацыі РБ, на вучобу за мяжу, а таксама для ўдзелу падчас навучальнага года ў міжнародных мерапрыемствах можа здзяйсняцца:



1. У адпаведнасці з міжнароднымі дамовамі Беларусі, дамовамі паміж ВНУ аб супрацоўніцтве ў галіне адукацыі, навукі, культуры, спорту і моладзевай палітыкі, а таксама дзеючымі ў Беларусі міжнароднымі адукацыйнымі праграмамі;

2. У межах міжнародных праектаў, адукацыйных праграм замежных дзяржаў, міжнародных арганізацый і па запрашэннях замежнай навучальнай установы, арганізацыі;

3. На падставе інфармацыйных абвестак аб правядзенні міжнародных мерапрыемстваў.

Для атрымання дазволу на вучобу за мяжой накіроўваючы бок падае ў Міністэрства наступныя дакументы:

1. Заяву ўстаноўленага ўзору;

2. Спіс грамадзян, што накіроўваюцца на вучобу за мяжу (па форме);

3. Копію пасведчання аб дзяржаўнай рэгістрацыі юрыдычнай асобы і прыватнага прадпрымальніка;










4. Інфармацыю накіроўваючага боку аб міжнароднай дамове РБ або дамове паміж ВНУ, падпісаную кіраўніком і завераную пячаткай;

5. Копію запрашэння замежнай навучальнай установы, арганізацыі, завераную пячаткай і подпісам кіраўніка накіроўваючага боку, арганізацыйнага камітэта (кіраўніка) міжнароднага мерапрыемства, перакладзеную на беларускую або рускую мову;

6. Інфармацыю (абгрунтаванне неабходнасці накіравання) аб міжнароднай праграме або праекце, у межах якіх здзяйсняецца накіраванне за мяжу, або міжнародным мерапрыемстве.

# ВЫШЭЙШАЯ АДУКАЦЫЯ Ў ЕЎРОПЕ

Вышэйшая адукацыя адыгрывае істотную ролю ў жыцці чалавека і грамадства. Яна спрыяе сацыяльнаму, культурніцкаму і эканамічнаму развіццю, станаўленню актыўнай грамадзянскай пазіцыі, а таксама ўмацаванню маральных каштоўнасцяў. На еўрапейскім узроўні адукацыя ў цэлым і вышэйшая адукацыя ў прыватнасці не з'яўляецца прадметам «агульнаеўрапейскай палітыкі». Змест і структура адукацыі вызначаюцца на нацыянальным узроўні.



Тым не менш, згодна з арт. 149 Амстэрдамскай дамовы, Еўрапейская супольнасць «мусіць спрыяць развіццю якаснай адукацыі за кошт умацавання супрацоўніцтва паміж дзяржавамі-членамі», а таксама праз шырокі спектр такіх мер, як заахвочванне мабільнасці грамадзян, распрацоўка сумесных навучальных праграм, стварэнне тэлекамунікацыйных сетак, абмен інфармацыяй

і выкладанне моў Еўрапейскага звяза. У пагадненні таксама прадугледжаны абавязкі па садзейнічанні развіццю сістэмы непарыўнай адукацыі для ўсіх грамадзян Еўразвяза. Такім чынам, Еўрапейская супольнасць павінна выконваць дапаможную ролю, забяспечваць развіццё якаснай адукацыі і стварэнне сістэмы непарыўнай адукацыі. На ўсіх апошніх еўрапейскіх самітах (пачынаючы з Лісабонскага ў 2000 годзе) падкрэслівалася важнасць адукацыі ў працэсе стварэння еўрапейскага грамадства ведаў.

Што тычыцца вышэйшай адукацыі, то асноўным інструментам для практычнай рэалізацыі гэтай стратэгіі павінна стаць вядучая еўрапейская праграма па фінансаванні адукацыі і прафесійнай падрыхтоўкі «Адукацыя на працягу ўсяго жыцця». Упершыню адзіная праграма дае магчымасць атрымліваць адукацыю з маленства да сталага ўзросту. Яна распрацавана на перыяд 2007–2013 гг. і стала працягам праграм **Socrates** і **Leonardo da Vinci.** Гэта праграма распрацавана і фінансуецца ЕЗ для трэціх краін, у тым ліку і Беларусі.



Дадатковая інфармацыя аб праграмах па вышэйшай адукацыі ў ЕЗ можа быць атрымана на вэб-старонцы **http://www.ec.europa.eu/education/programmes/programmes_en.html.**

Найбольш папулярнымі праграмамі ЕЗ у галіне вышэйшай адукацыі для Беларусі з’яўляюцца **Tempus**, **Erasmus Mundus**, **Erasmus Mundus External Cooperation Window**, **Стыпендыяльная праграма для навучання ў Еўрапейскім каледжы і Еўрапейскім навучальным інстытуце**.



Пра ўсе магчымыя праграмы навучання за мяжой можна знайсці падрабязную інфармацыю па гэтых спасылках:

**http://vsekonkursy.ru/**

**http://www.abroad.ru/**



А таксама на сайце Амерыканскага цэнтра:

**www.amcenter.by**

На сайце культурна-інфармацыйнай установы «Міжнародны дыялог»:



**www.internationaldialogue.by**



Сайт амбасады Францыі з інфармацыяй пра навучальныя праграмы для студэнтаў:

**http://www.ambafrance-by.org/**



Спіс нямецкіх фондаў:

**www.stiftungsindex.de**



Пошук арганізацый, што выдаюць стыпендыі, на сайце Саюза спонсараў нямецкай навукі

**www.stifterverband.org**



Праграмы стыпендый федэральных земляў і ВНУ для міжнароднага студэнцкага абмену: тэрміны, колькасць магчымых стыпендый, умовы іх прадастаўлення:



**www.daad.de**.



# РЭЙТЫНГ ПАПУЛЯРНАСЦІ І ЯКАСЦІ СУСВЕТНЫХ ВНУ[7]

Выданне «**Times Higher Education Supplement»** (тэматычны дадатак па вышэйшай адукацыі да брытанскай газеты «Таймс») апублікавала новы рэйтынг 200 лепшых універсітэтаў свету, складзены супольна з арганізацыяй «QS Quacquarelli Symonds».

Спіс лепшых універсітэтаў складзены на падставе апытання звыш 5 тыс. прафесараў і выкладчыкаў, а таксама 1482 працадаўцаў. Акрамя гэтага, улічваліся такія паказчыкі, як суадносіны студэнтаў і выкладчыцкага складу, мясцовых і замежных студэнтаў і інш.

1. (1)* Harvard University (ЗША)
2. (2) University of Cambridge (Вялікабрытанія)
2. (3) University of Oxford (Вялікабрытанія)
2. (4) Yale University (ЗША)
5. (9) Imperial College London (Вялікабрытанія)

6. (10) Princeton University (ЗША)
7. (7) California Institute of Technology (ЗША)
7. (11) University of Chicago (ЗША)
9. (25) University College London (Вялікабрытанія)
10. (4) Massachusetts Institute of Technology (MIT, ЗША)
11. (12) Columbia University (ЗША)
12. (21) McGill University (Канада)
13. (13) Duke University (ЗША)
14. (26) University of Pennsylvania (ЗША)
15. (23) Johns Hopkins University (ЗША)
16. (16) Australian National University (Аўстралія)
17. (19) University of Tokyo (Японія)
18. (33) University of Hong Kong (Ганконг)
19. (6) Stanford University (ЗША)
20. (35) Carnegie Mellon University (ЗША)
20. (15) Cornell University (ЗША)

*У дужках паказаныя пазіцыі, якія універсітэты займалі ў рэйтынгу 2006 года. Аднолькавыя нумары месц кажуць аб тым, што ВНУ набралі роўны лік балаў.

# БЕЛАРУСЬ І БАЛОНСКІ ПРАЦЭС

Балонскі працэс – гэта працэс стварэння да 2010 г. адзінай еўрапейскай адукацыйнай прасторы. Зараз да Балонскай сістэмы далучаны 46 краін пры ўдзеле шэрагу міжнародных арганізацый.





Вобразна кажучы, Балонскі працэс узводзіць масты, па якіх можна проста трапіць з сістэмы адукацыі адной краіны ў сістэму адукацыі іншай.

Такімі «мастамі» з'яўляюцца:

• Прыняцце сістэмы зразумелых і супастаўных ступеняў;
• Прыняцце двухступеннай сістэмы навучання;










• Пераход на сістэму крэдытаў (як ECTS);

• Павышэнне мабільнасці ў абмене студэнтамі, выкладчыкамі, даследчыкамі і кіраўніцтвам;

• Спрыянне еўрапейскаму супрацоўніцтву ў гарантаванні якасці адукацыі;

• Прыўнясенне абавязковых еўрапейскіх стандартаў у адукацыю.

І гэта толькі базавыя патрабаванні.

Для Беларусі далучэнне да Балонскага працэсу азначае не толькі знешнюю карэкцыю адукацыйнага працэсу, але і змену ўнутранага зместу курсаў. На сённяшні дзень аб супастаўнасці вывучаемага гутаркі быць не можа. Таксама трэба мяняць і сістэму стасункаў паміж ВНУ і студэнтам. Пакуль ніякіх канкрэтных рашэнняў не прымалася, і афіцыйная пазіцыя Міністэрства адукацыі яшчэ не агучана.

# ПРАЦА ЗА МЯЖОЙ ДЛЯ СТУДЭНТАЎ[8]

За апошнія некалькі гадоў многія студэнты адкрылі для сябе прывабнасць працы за мяжой. Усё сапраўды выглядае даволі спакушальна: можна зарабіць дастаткова прыстойную суму грошай, а заадно і паглядзець свет, набрацца новых уражанняў, завесці сяброў, плюс папрактыкавацца ў замежнай мове. Тым больш што гэта адбываецца ўлетку, і такі варыянт дапаможа выдатна адпачнуць і падзарабіць падчас вакацый.

Для пачатку варта выбраць студэнцкую праграму, па якой вы будзеце жыць і працаваць за мяжой. Большасць беларускіх фірм працуюць з наступнымі праграмамі:

– **Au Pair in the USA Summer Program** – праграма для дзяўчат 18–26 гадоў, удзельніцы займаюцца доглядам дзяцей у амерыканскіх сем’ях. Гэта можа стаць неблагім варыянтам для студэнтак (асабліва будучых педагогаў), якія жадаю-



ць нармальна адпачыць і трохі зарабіць. Жыллё і харчаванне прадастаўляюцца сям'ёй, якая прымае, і вы будзеце выдаткоўваць кроўна зробленыя долары выключна на сябе. Праўда, і заробкі ў гэтай праграме не касмічныя – ад 135–140 USD на тыдзень + 250 USD на аплату курсаў (замежнай мовы). Працягласць праграмы – 2,5–4 месяцы. Гэта значыць, што заробіце вы каля 2500–3000 USD пры кошце праграмы каля 800 USD. Дарэчы, вам абавязкова спатрэбіцца пасведчанне вадзіцеля і, натуральна, веданне англійскай мовы.



– **Camp Counselors USA (CCUSA)** – праграма падыходзіць менавіта для навічкоў. Асноўная перавага перад іншымі праграмамі ў тым, што ўдзельніку не патрэбна займацца пошукамі працы, жылля і харчавання. Чаму? Таму што вы едзеце ў адзін з 12 000 амерыканскіх дзіцячых летнікаў у якасці важатага або абслугоўваючага персанала. У кожнага летніка свая філасофія і спецыялізацыя, таму кола вашых абавязкаў можа быць дастаткова шырокім. Яшчэ адзін плюс дадзенай праграмы – яе адносна невялікі кошт – каля 700 USD. Зарабіць можна не тое каб вельмі шмат, але і не вельмі мала: ад 700–1200 USD за 9–11 тыдняў у залежнасці ад вашага ўзроўню і абавязкаў. Прыкідваючы суму, не варта забываць пра бясплатнае харчаванне (уліч-










ваючы, што гэта дзіцячыя летнікі, то кормяць там, вядома, не вельмі шмат і не вельмі смачна), пражыванне і забавы. Добрае веданне размоўнай англійскай мовы абавязкова.

Удзельнікамі праграмы могуць стаць: маладыя людзі і дзяўчаты 19–24 гадоў, навучэнцы не апошняга курса дзённага аддзялення дзяржаўнай ВНУ.

– **Work Experience USA,** або **Work and Travel USA** – самая папулярная летняя студэнцкая праграма ў свеце. Удзельніку прадастаўляецца магчымасць працаваць у ЗША 3–4 месяцы, прычым не на адной працы. Сфера прымянення сваіх здольнасцяў і сіл вялікая: бары, рэстараны, гатэлі, супермаркеты і г.д. Гэта праграма папулярная ў асноўным сярод студэнтаў, якія раней працавалі за мяжой, бо, па сутнасці, вы будзеце цалкам самастойнымі. Пошук працы, жылля і харчавання ўскладзецца на вашы плечы. Многіх такая свабода палохае, а тыя, хто згаджаецца, зарабляюць вельмі прыстойна: працуючы на дзвюх працах можна прывезці каля 3000–5000 USD, а калі пастарацца, то і болей.

Кошт праграмы можа быць розным (ад 700 да 2500 USD): гэта залежыць ад паслуг той фірмы, пры дапамозе якой вы з’язджаеце (набыццё квіткоў, пошук працы і г.д.), і пункта прызначэння.

Патрабаванні да ўдзельніка:

– Узрост 19-24 гады;

– Студэнт дзённага аддзялення дзяржаўнай ВНУ;

– Добрае веданне ангельскай мовы.

Калі вас болей вабіць да зямлі, то існуюць праграмы для студэнтаў, якія жадаюць папрацаваць на фермах Вялікабрытаніі, Нямеччыны, Францыі і г.д. Але з-за таго, што працаваць там прыходзіцца шмат, а заробкі не вельмі высокія (часцей у выглядзе бонуса даюць уласную прадукцыю), гэтыя праграмы менш папулярныя сярод беларускіх студэнтаў.

Калі праграма выбрана, самы час даведацца паболей пра краіну, у якую збіраецеся ехаць, а таксама пра ўсе складанасці, звязаныя з выездам. Таксама ў фірме, пры дапамозе якой вы

вырашылі паехаць, варта даведацца пра тое, што ўваходзіць ці не ўваходзіць у кошт праграмы (авіябілеты, страхоўка, пошук працы, сустрэча па прыбыцці ў краіну, праезд да месца працы і інш.), адкуль здзяйсняецца вылет да пункта прызначэння (Мінск, Масква, Варшава і г.д.), бо у большасці фірм выдаткі на праезд да аэрапорта (уключна з атрыманнем віз) вы будзеце аплачваць самастойна. Адным словам, перад заключэннем дамовы даведайцеся як мага больш як пра праграму, так і пра саму фірму.

# МІФЫ ПРА ПРАЦУ ЗА МЯЖОЙ





**Міф 1. «Назад можна не вяртацца»**

Нелегал застаецца без афіцыйнай працы, доступу да медыцыны, абароны ад крыміналу. У Беларусі вас выключаюць з ВНУ, могуць прымусіць бацькоў заплаціць за ваша невяртанне штраф: у некаторых фірмах ён закладзены ў дамову, і «кошт» за студэнта даходзіць да 700 у.а. Плюс магчымыя праблемы з краінай, у якой так спадабалася: вы можаце стаць


неўязным туды на працягу 3–10 гадоў.

Калі спазніцеся з вяртаннем, то могуць выключыць з універсітэта і ўнесці ў «чорны спіс» амбасады.



**Міф 2. «Пяцікурснікаў і завочнікаў ніхто не пусціць»**



За мяжу складаней патрапіць тым, хто вучыцца на першым ці на пятым курсе, завочна або браў акадэмічны адпачынак. Але няма нічога немагчымага. Для пяцікурснікаў, што вывучаюць гатэльны бізнес, грамадскае харчаванне, турызм або замежныя мовы, існуюць спецыяльныя стажыроўкі. Некаторыя краіны чакаюць нашых студэнтаў і нават аспірантаў, што вывучаюць сельскую гаспадарку. Завочнікі могуць патрапіць у Вялікабрытанію або Нарвегію незалежна ад таго, у дзяржаўнай ці ў прыватнай ВНУ вы навучаецеся.





**Міф 3. «Калі з'ездзіў адзін раз, больш візу не адкрыюць»**



Пакуль такая праблема ёсць толькі са Швейцарыяй. Плацяць там добра, але ў другі раз працоўную візу не выдаюць. Іншых краін гэта не тычыцца: вас будуць рады бачыць зноў.



**Міф 4. «Можна спланаваць колькасць грошай, якія я прывязу назад»**

Дакладна падлічыць не атрымаецца, бо хапае складанасцяў. Напрыклад, у Вялікабрытаніі забаронена працаваць звыштэрмінова або мяняць месца працы (акрамя надзвычайных сітуацый). У ЗША больш магчымасцяў: можна перайсці на іншую працу або знайсці падпрацоўку. Пры гэтым, калі чалавек працуе больш за 40 гадзін на тыдзень, за кожную дадатковую гадзіну працадаўца вымушаны будзе вам заплаціць у 1,5 разы болей.

**Міф 5. «Куды захачу – туды палячу»**

На сённяшні дзень самыя рэальныя варыянты – гэта ЗША, Вялікабрытанія і Нарвегія. З усімі астатнімі краінамі складаней з-за нашай знешнепалітычнай сітуацыі. І яшчэ: Беларусь не ўваходзіць у Еўразвяз, таму свабода перасоўвання працоўнай сілы ў поўнай меры ў нас адсутнічае.



# ЯК ЗАРАБЛЯЦЬ ГРОШЫ І ЗАСТАЦЦА СТУДЭНТАМ





Прайшлі тыя часы, калі дня выдачы стыпендыі чакалі, як манны нябеснай. Сучасны студэнт ведае: на стыпуендыю жыць можна, але нядоўга. Таму ён ідзе працаваць. Гэта нашы мамы і таты днямі сядзелі ў бібліятэцы, «падтрымлівалі сцены» на «блакітных агеньчыках», каб улетку паехаць у будатрады. Зараз маладыя людзі на універ ці камсамол (чытай: БРСМ) не спадзяюцца, а шукаюць працу самі. Галоўнае – ведаць, дзе шукаць і што пасля казаць дэканату.

Першую стыпендыю раюць прагуляць. Што называецца, і сапраўднае жыццё адчуеш, і думкі пра працу з'явяцца. Так, менавіта з самых першых гадоў навучання хочацца быць матэрыяльна самастойным. Але дэканат, які дня пражыць не можа, не завітаўшы на заняткі з праверкай, пачынае ствараць каляпрацоўныя міфы. А па ісціну варта звярнуцца да раздзела 15 «Сумяшчэнне працы з навучаннем» Працоўнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.










**Міф № 1. «Працаваць так рана нельга!»**

Калі студэнт на першым курсе непаўналетні, гэта абсалютна не замінае знайсці яму працу. Пачынаць працаваць можна ўжо з 14 гадоў, але тады трэба прадаставіць пісьмовую згоду аднаго з бацькоў, а занятак не павінен быць шкодным для здароўя і замінаць наведванню школы. З 16 гадоў у маладога чалавека з'яўляецца абсалютная свабода.

**Міф № 2. «Працаваць афіцыйна можна толькі завочнікам»**

Той, хто навучаецца на дзённым аддзяленні, можа спакойна мець афіцыйную працу. Пры ўладкаванні заключаецца дамова, а ў працоўнай кніжцы робіцца адпаведны запіс (калі студэнт працуе па дамове падраду). Працоўныя кніжкі вядуцца для тых, хто працуе больш за 5 дзён (нават на часовых і сезонных працах), а таксама для пазаштатнікаў і надомнікаў, калі праца ў арганізацыі з'яўляецца асноўнай. Гэта правіла, дарэчы, распаўсюджваецца на тых, хто праходзіць практыку, і не толькі ў летні перыяд. Праца студэнта падчас вучобы не расцэньваецца як па сумяшчальніцтве, бо навучанне не з'яўляецца працай.

**Міф № 3. «Працаваць студэнтам дзённай формы навучання можна толькі з дазволу дэканата і па спецыяльнасці»**

Студэнт можа афіцыйна навучацца і працаваць. Пры ўладкаванні на працу са студэнтам заключаецца працоўная дамова і заводзіцца працоўная кніжка, у якой робіцца адпаведны запіс. Працоўныя кніжкі заводзяцца на ўсіх працаўнікоў наймальніка, хто працуе не менш за 5 дзён. Гэта правіла распаўсюджваецца на студэнтаў, аспірантаў, клінічных ардынатараў і іншых.

**Міф № 4. «Праца не залічыцца ў працоўны стаж»**

Працоўны стаж устанаўліваецца на падставе працоўнай кніжкі, таму, чым раней яна ў вас з'явіцца, тым раней пачнецца адлік.

**Міф № 5. «Студэнтам адпачынак не даюць**»

Адпачынак даюць тым, хто не мае запазычанасцяў па вучобе, на перыяд выканання лабараторных, здачы залікаў і іспытаў. Толькі працягласць розная.

Вучэбны адпачынак даецца толькі пры ўмове добрага навучання ва універсітэце (калі няма ніякіх "хвастоў") на час здачы

лабараторных прац, іспытаў і залікаў кожны год.

**Тэрміны навучальных адпачынкаў**

| | Студэнты-вячэрнікі ВНУ | Студэнты-вячэрнікі ССНУ | Завочнікі ВНУ і ССНУ |
|---|---|---|---|
| 1–2 курсы | 20 дзён | 10 дзён | да 30 дзён |
| 3–5 курсы | 30 дзён | да 20 дзён | да 40 дзён |

Падчас здачы дзяржіспытаў завочнікам і вячэрнікам прадастаўляецца 30 дзён адпачынку. А калі справа тычыцца дыплома – 120. Для навучэнца ССНУ апошняя лічба паменшана да 60. Зарплата захоўваецца сярэдняй. Хто жадае паступіць у аспірантуру, бярэ адпачынак за свой кошт (па 10 дзён на іспыт). Студэнтам, дапушчаным да паступлення ў аспірантуру, можа быць дадзены адпачынак да 30 дзён без захавання заробку.

## Працоўны адпачынак



Адпачынкі прадастаўляюцца па жаданні пасля 6 месяцаў з моманту пачатку працы.



## Ільготы



Ільготы ў выпадку працы вы атрымаеце, толькі калі вы студэнт-завочнік ці маеце вячэрнюю форму навучання. Галоўная магчымая льгота – адпачынак. У вас ёсць магчымасць атрымаць адзін вольны дзень на тыдзень пры шасцідзённым працоўным тыдні на працягу 10 месяцаў для падрыхтоўкі дыпломнай працы ці дзяржіспытаў. Пры гэтым у дні, калі вы не працуеце, за вамі захоўваецца заробак у памеры 50% ад сярэдняга, але не менш за мінімальны. Калі працоўны тыдзень складае 5 дзён, колькасць вольных дзён змяняецца ў залежнасці ад працягласці змены, але колькасць вольных гадзін застаецца той жа. На працягу гэтых жа 10 месяцаў наймальнік можа даваць студэнту па жаданні вольныя дні без захавання заробку.











## Практыка – старт для будучай працы

Калі кампаніі патрэбны супрацоўнікі, а грошы плаціць неахвота, то яна можа з лёгкасцю запрасіць студэнтаў. Вытворчая практыка – добры старт для сталай працы.





Гэта зразумела Даша, студэнтка 3-га курса факультэта журналістыкі БДУ.

*– Месца, куды пойдзеш на практыку, лепш выбіраць самому. Без тваёй ініцыятывы могуць паслаць у які-небудзь «Сцяг Ільіча», і пішы пасля сабе там «30 дзён адзіноты» (практыка на журфаку цягнецца цэлы верасень штогод). Я ж пасля другога курса вырашыла пайсці ў вядомае рэкламнае агенцтва. Выкладчыкі казалі: максімум, што мне там дазволяць, – насіць каву сакратарцы, але гатаваць я не аматар, таму вырашыла заняцца справай. Пасля практыкі мне прапанавалі застацца, а з кожным месяцам кар'ера пачала ісці ўгару…*











Зараз Даша звольнілася па сваёй ініцыятыве: расла кар'ера – раслі і патрабаванні дзяўчыны. Як толькі яна зразумела, што ў кампаніі праблемы з планаваннем, сябры-калегі сыходзяць, сама затрымлівацца не стала. Дзяўчына не баіцца ўсё пачаць спачатку ў іншым месцы.

*– Я ведаю цяпер, што баяцца не варта. Гэтак сама як не варта прывязваць сябе да адной фірмы на ўсё жыццё. Будзе новая практыка – буду нанова прыглядацца. Калі спадабаецца – застануся. Спачатку выбіраюць цябе, а пасля выбіраеш ты.*

## «Я працую на краіну, але не на дзяржаву!»

Нягледзячы на тое, што студэнт пачынае працаваць ужо з малодшых курсаў, часта працоўную кніжку ён бачыць упершыню толькі пасля размеркавання. Чым больш імкнуцца размеркаваць на дзяржпрадпрыемствы выпускнікоў, тым больш навучэнцы аддаюць перавагу прыватным. Чаму? У большасці адказ адзін: «Там, дзе ёсць дзяржава, няма свабоды. Мы працуем на краіну, але не на дзяржаву».

На краіну, дарэчы, працуюць далёка не ўсе. Прынамсі, на родную краіну. Знайсці сабе месца ў Кіеве ці Маскве з сучаснымі тэхналогіямі не праблема.

Наталля свайго працадаўцу ў вочы не бачыла.

*– А навошта? Мне хапае камунікацыі праз электронную пошту. Ён мне заданне – я яму артыкул (Наталля супрацоўнічае з модным рускім часопісам). Грошы пераводзіць на картку. І я задаволена, і рускім дзяўчатам ёсць чым сябе заняць у чарзе да манікюркі.*

## Крэдыт на вучобу – працаваць будзеш усё адно

Еўрапейскія студэнты вучацца па-рознаму. Для іх паняцце «бясплатная адукацыя» нават у снах не мроіцца. Таму і прыходзіцца круціцца, каб быць дыпламаваным спецыялістам. Часцей за ўсё яны бяруць у банку крэдыт, а пасля яшчэ доўгія гады яго выплачваюць.

Ксюша, прыехаўшы ў Гамбург з Беларусі, пайшла іншым шляхам. Яна вырашыла інтэнсіўна працаваць.

*– Тут не працуюць толькі лайдакі. Працу я знайшла сабе даволі хутка: даглядаю за інвалідамі. Вядома, гэта не найлепшы варыянт, але за 2 месяцы я здольна аплаціць сваё гадавое навучанне самастойна (1000 еўра). Але мне яшчэ трэба на нешта жыць, апранацца, адпачываць і ездзіць у Беларусь, бо тут у мяне яшчэ і завочка ў БДУ. Але калі параўнаць, дзе лягчэй знайсці працу, то я адказваю: у Нямеччыне. Нават калі ты валодаеш недасканала мовай. Мой мінскі вопыт мяне расчараваў.*





## Перайдзі на завочку і працуй спакойна?




Падчас навучання на дзённым аддзяленні не раз і не два падмывае сабраць дакументы і перавесціся на завочнае. Але сказаць працы «так», а вучобе – «пачакай да сесіі» адважваюцца нямногія.




У студэнцкіх колах таксама ходзіць міф, быццам на завочную форму пераводзяць толькі па важкай прычыне. Але насамрэч усё залежыць ад жадання навучэнца. Толькі спыняюць многіх 2 фактары: на завочцы можа не быць бюд-










жэтных месцаў, а плаціць не хочацца ці не можацца; вучоба ператвараецца ў імітацыю. Аднак хітрыя студэнты любяць перавесціся на завочнае на апошнім курсе, каб пазбегнуць размеркавання.

## Свабодная каса ці заняты столік?



Калі вы студэнт і працуеце па спецыяльнасці, то, відаць, вы любіце правільныя, прамыя шляхі. Калі ж вам па душы стан “вучымся катацца на роліках”, што значыць пастаянна мяняцца, падаць і ўставаць, а галоўнае – каціцца на шалёнай хуткасці, то вы шукаеце сябе ў мностве прафесій. І шукаеце першапачаткова грошы. Сур’ёзныя фірмы студэнтаў ніколі не любілі, і сярод вакансій, якія вывешваюць на сайтах, чорным па белым вылучаюць: “Не студэнт!” Хаця часам незразумела, чаму тым жа памочнікам менеджэра па продажах не можа быць студэнтка факультэта менеджмента, калі праца ўсё адно на паўстаўкі. Таму маладыя людзі ідуць ў «Макдональдс», рэстараны і кавярні.

Вова вучыцца ў БДУІР і кожны дзень працуе ў «Макдональдсе». На пытанне: «Ну што, ты зарабіў сабе на фоцік?» – ён адказвае адмоўна: «Фоцік хочацца дарагі, а ў месяц выходзіць па 150 тысяч заробку”.

Студэнтка 3-га курса МДЛУ Ганна шукае сабе працу ледзь не з першага курса. Яна займалася распаўсюджваннем касметыкі, зараз падпрацоўвае дзе прыйдзецца, сярод іншага – накрывае сталы на вяселлях. Каб мець магчымасць працаваць па спецыяльнасці ўжо зараз, Ганна наведвае курсы гідаў-перакладчыкаў.

Студэнт 5-га курса БДУ Яўген заканчвае факультэт прыкладной матэматыкі і інфарматыкі. За пяць гадоў навучання ён змяніў тры месцы працы. Спачатку працаваў у бацькі на фірме – летам, у якасці падпрацоўкі. Потым ва ўніверсітэце запрасілі падпрацаваць на «BELHARD», але надоўга ён там не затрымаўся – не спадабалася арганізацыя працы. Яшчэ праз год Яўген знайшоў сабе працу ўжо на больш-менш сур’ёзнай фірме праз знаёмых. Там працуе па сваёй непасрэднай спецыяльнасці – праграмаванне. Яшчэ атрымлівае эканамічную спецыяльнасць, якая таксама спатрэбіцца ў яго працы. А факультэт атрымаў заяўку на супрацоўніка, што паўздзейнічае на яго размеркаванне.

Студэнтка 2-га курса БДЭУ Ганна працуе ў Макдональдсе ўжо год. Яна вырашыла пайсці на такую працу, каб самастойна аплачваць навучанне ва ўніверы. Зараз даводзіцца працаваць 6–8,5 гадзіны ў суткі, 5 дзён на тыдзень і за малы заробак. “Але што зробіш? – кажа Ганна. – Грошы якія-ніякія, а патрэбны...”



Студэнт 4-га курса радыётэхнічнага каледжа Павел таксама нядаўна ўладкаваўся на працу. У яго вольны графік, але працы хапае. “Гэта вельмі цяжка, – кажа мне Паша, – праца і дыплом займаюць увесь час і сілы, ні хвіліначкі вольнай няма”.







**Вучоба + праца – ці рэальна?**

**Мікалай Шчэцько, выпускнік БДУІР**:

– *Працаваць і вучыцца – больш чым рэальна, трэба толькі жадаць гэтага і заўсёды верыць у сябе. Калі трымаць сябе ў чорным целе і не даваць ленавацца, то можна добра паспяваць і на вучобе, і на працы. Мне цяжэй за ўсё было працаваць падчас вучобы ў школе – урокі, хатнія заданні... Ва ўніверсітэце вучыцца аказалася лягчэй, таму «ад сесіі да сесіі» атрымоўвалася плённа працаваць. Першы час працаваў самастойна, потым пераехаў у офіс на няпоўны працоўны дзень: зранку ва ўніверсітэт, пасля абеду – у офіс.*











## Міфы студэнтаў пра працу падчас вучобы









**Міф № 1. «Калі ты працуеш, то маеш ільготы на вучобе»** На пытанне выкладчыка: «Дзе вы былі падчас лекцыі і чаму не вывучылі матэрыял?» – адказ: «На працы шмат спраў» слаба коціць. Вядома, прафесары самі калісьці былі студэнтамі, але апраўданне, хоць і праўдзівае, дзейнічае далёка не заўсёды. Хіба што на факультэце журналістыкі БДУ выкладчыкі заахвочваюць да супрацоўніцтва са СМІ. А вось на факультэце прыкладной матэматыкі і інфарматыкі (ФПМІ) БДУ за наведваннем асабліва не сочаць, але працай на іспыце не «адмажашся».

**Міф № 2 «Калі ты вучышся, то маеш ільготы на працы»** Правіла дзейнічае толькі для завочнікаў ці вячэрнікаў. Такім супрацоўнікам па іх жа жаданні прадастаўляецца скарочаны працоўны тыдзень. Напрыклад, пры 6 працоўных днях вы маеце права на адзін вольны дзень на працягу 10 навучальных месяцаў для падрыхтоўкі дыпломнай працы ці здачай дзяржіспытаў. За гэта прадастаўляецца 50% сярэдняга заробку, але не ніжэй за ўстаноўлены мінімальны памер.

## Што патрэбна, каб знайсці працу?

Вядома, першае, што патрэбна, – шукаць яе. Але, безумоўна, лепей, калі табе ёсць 18 гадоў, ты камунікабельны, лёгка знаходзіш агульную мову з незнаёмымі людзьмі, маеш досвед працы, адказны чалавек. Добра ўмець аператыўна рэагаваць на сітуацыю, мець жывы розум і пазітыўны погляд на жыццё. Да таго ж няблага ведаць замежную мову (лепей за ўсё англійскую), умець карыстацца камп'ютэрам і Інтэрнетам, хаця б як просты юзер. І, вядома ж, калі праца сур'ёзная, то лепей, калі ты будзеш навучацца на сумежнай спецыяльнасці. Таксама калі ты вырашыў знайсці сур'ёзную працу, ты павінен задумацца пра складанне свайго рэзюме.



# ВАЛАНЦЁРСТВА



Калі хто не ведае, гэта від студэнцкага адпачынку і працы ў любой краіне свету. За гэта не трэба плаціць, але і вам ніхто нічога не заплаціць. “Працую за ежу” – у двух словах так можна апісаць прынцып валанцёрскай працы: вам даручаць раскопкі, ці культурніцкія мерапрыемствы, ці што яшчэ (гл. ніжэй). І краіну таксама выбіраеце вы самі на свой густ. Праўда, вам не аплочваюць дарогу, затое аплочваюць пражыванне і харчаванне, а вы на працягу нейкага тэрміну працуеце ў міжнароднай тусоўцы, вучыце мовы, знаёміцеся і весела бавіце свой час.



За мяжой вас чакае:

- праца ў сацыяльных цэнтрах з дзецьмі, інвалідамі і састарэлымі;
- праца па праграмах, звязаных з экалогіяй і ахovай навакольнага асяроддзя (праца ў парках, ачыстка рэк і г.д.);
- рэстаўрацыя моладзевых клубаў і цэнтраў, помнікаў і гістарычных аб’ектаў;
- удзел у археалагічных раскопках;
- музычныя і мастацкія праекты, арганізацыя і правядзенне арт-фестываляў і акцый.










Варта адразу ўдакладніць, чым прыйдзецца займацца і колькі часу будзе на адпачынак і экскурсіі. Звычайны працоўны час валанцёраў – ад 4 да 8 гадзін; субота і нядзеля – выхадныя.

У Беларусі прапаноўваюць валанцёрскія праграмы, прынамсі, наступныя арганізацыі: **«Новая Група»** (г. Мінск, вул. В.Харужай, 29, к. 107, т. (8-017) 234-40-54) і **«Ліга добраахвотнай працы моладзі»** (г. Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 4, т. (8-017) 284-08-81). На месцы вы ўдакладніце, колькі трэба плаціць за ўдзел у праграме і ў якую краіну свету можна паехаць папрацаваць.

# ПАНАЕХАЛІ ТУТ!



Інфармацыя пра побыт іншагародніх студэнтаў, у прыватнасці пра асаблівасці стасункаў студэнта са студгарадком, абавязкі і правы кожнага з тых, хто пражывае ў студэнцкім інтэрнаце, а таксама агляд мінскіх інтэрнатаў (фотарэпартаж) – у гэтым раздзеле.

# ЗАСЯЛЕННЕ Ў ІНТЭРНАТ

## У каго ёсць права на пазачарговае засяленне?[9]

• Студэнты-сіроты і дзеці, пакінутыя без апекі бацькоў, а таксама прыроўненыя да іх (студэнты з сем'яў, у якіх адзін з бацькоў – ваеннаслужачы, супрацоўнік МУС, КДБ і г.д. – загінуў падчас выканання сваіх службовых абавязкаў);

• Студэнты-інваліды 1-й і 2-й груп, дзеці-інваліды;

• Студэнты са шматдзетных сем'яў;

• Студэнты, якія маюць права на льготы ў адпаведнасці з артыкуламі Закона Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» (арт. 18, 19, 23, 24, 25);

• Студэнты, сем'і якіх пацярпелі (страцілі жыллё і г.д.) у выніку стыхійных бедстваў, сацыяльных, тэхнагенных і іншых катастроф;

• Студэнты, якія выбылі з інтэрната ў сувязі з прызывам на вайсковую службу і пасля звальнення ў запас аднавіліся ў ВНУ;

• Студэнты, якія паступілі ў ВНУ на ўмовах мэтавай кантрактнай падрыхтоўкі, калі гэта прадугледжана кантрактам;

• Студэнты – замежныя грамадзяне, калі гэта прадугледжана кантрактам.



## Засяленне ў першую чаргу

• Студэнты-інваліды 3-й групы;

• Студэнты са шматдзетных сем'яў (3 або больш непаўнагалетніх дзяцей або дзяцей навучэнцаў ВНУ, ССНУ дзённай формы навучання);

• Студэнты з сем'яў інвалідаў вайны 1-й і 2-й груп і прыроўненых да іх (адзін з бацькоў студэнта з'яўляецца інвалідам вайны ў Афганістане ці інш.);

• Студэнцкі актыў (камітэт БРСМ, камітэт студэнцкай Рады ВНУ, прафсаюзны камітэт ВНУ, прафбюро факультэтаў, члены










студэнцкай Рады інтэрната, аператрадаў, студэнцкай службы бяспекі, рады па прафілактыцы, савета па якасці адукацыі, будатрадаў ВНУ, савета стараст, старасты паверхаў) па узгадненні з вышэйстаячымі арганізацыямі;

• Маладыя сем'і (сем'і, ў якіх члены сям'і – студэнты або магістранты ВНУ).



**Таццяна Анікеенка, 1-ы курс БДУ, філалагічны факультэт:**

*– На пачатку навучальнага года нас усіх «зялёных» першакурснікаў сабралі ў актавай зале і пачалі заганяць у прафсаюз. Мы напачатку думалі, што з нашай групы пад паперкай не падпісаўся ніхто. Але, як высветлілася пасля, былі ў нас тры чалавекі, якія сказалі: "Дык гэта, а мы ўжо даўно ў прафсаюзе!" Аказалася, што падчас афармлення ў інтэрнат (ці можа трошкі раней, я дакладна не магу сказаць) ім банальна далі падпісаць паперачку для ўступлення, без якой не адбылося б засялення! Як яны гавораць, ім нават не сказалі, што яны падпісваюць, патлумачылі толькі той факт, што «не падпішыце – не заселіцеся». Вось так. І яны засяліліся. І жывуць (што цікава, 2 дзяўчыны вучацца на платным). А дзяўчаты – алімпіядніцы, якія занялі першыя месцы на рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове (дзякуючы чаму і паступілі на бюджэт), здымаюць сабе пакоі. І інтэрната для іх пакуль не прадбачыцца.*

## Што неабходна для засялення ў студэнцкі інтэрнат?

1. Падаць заяву на імя рэктара ВНУ ў дэканат.

2. У дэканаце заява рэгіструецца:

● у кнізе рэгістрацыі заяў студэнтаў, што жадаюць атрымаць інтэрнат;

● у спісе ўліку студэнтаў, якія маюць права на пазачарговае (першачарговае) атрыманне інтэрната;

● у спісе ўліку студэнтаў, якія жадаюць атрымаць інтэрнат.

3. На падставе прынятага рашэння аб засяленні ў інтэрнат заключаецца дамова № 2 аб найманні жылога памяшкання ў

інтэрнаце ў двух асобніках (афармляецца ў дэканаце).

4. Неабходна прайсці медагляд.

5. Неабходна аплаціць пражыванне ў інтэрнаце ў касе універсітэта або ў банку.

# УНУТРАНЫ РАСПАРАДАК





Паводле правіл унутранага распарадку, самастойнае перасяленне з пакоя ў пакой забаронена, трэба прасіць дазволу адміністрацыі. Нельга перасоўваць мэблю і рабіць перапланіроўку пакояў – тут нават без агаворак, проста нельга, і ўсё. У выпадку, калі цябе выключылі, трэба пакінуць пакой на працягу трох–пяці дзён, хаця вядомы выпадкі, калі выключаныя студэнты працягвалі жыць да канца навучальнага года ў інтэрнаце ВНУ, з якой былі адлічаны яшчэ ўзімку. А ўсё з-за таго, што не ўсе і не ва ўсіх інтэрнатах прад’яўляюць пропуск на ўваходзе, нягледзячы на тое, што гэта з'яўляецца фармальна неабходнай ўмовай пранікнення ў будынак.



## Студэнцкая Рада інтэрната









Каб лягчэй было знайсці «крайняга» ў выпадку надзвычайнага здарэння ў канкрэтным пакоі, была створана студэнцкая Рада і прызначаны старасты паверхаў і блокаў. За кожнае здарэнне адказваюць менавіта гэтыя канкрэтныя людзі. Студэнцкая Рада пераважна складаецца з тых, каму патрэбна абавязкова засяліцца на наступны год (а за «грамадскую дзейнасць» існуюць вось такія перавагі), членаў прафсаюзу ці членаў БРСМ ці наўпрост з тых, каго прызначыць сацыяльны педагог інтэрната (чалавек, адказны за выхаваўчую (ідэалагічную) і грамадскую працу). Усе, хто жыве ці жыў у студэнцкіх інтэрнатах, у курсе гэтай «кухні».

Быць у сістэме студэнцкага самакіравання – досыць адказная і клопатная справа, звязаная з некаторымі «маральна-этычнымі» пытаннямі з боку іншых жыхароў інтэрната. Натуральна, за тое, што ў студэнцкай Рады ёсць паўнамоцтвы выносіць вымовы і хадайнічаць аб высяленні асабліва «выбітных» жыхароў, слава ў яе прадстаўнікоў незайздросная... Але калі ты шчыра імкнешся нешта змяніць і палепшыць, то і тут “палка з двума канцамі”, бо адміністрацыя не вельмі вітае занадта рашучых і актыўных «дзеячаў». Але для ўпэўненых у сваіх сілах актыўных людзей гэта нядрэнны досвед, добрая магчымасць палепшыць сітуацыю ў інтэрнаце і атрымаць дадатак да стыпендыі. Правы стараст і членаў Рады абараняюцца як адміністрацыяй інтэрната і прафкомам студэнтаў, так і адміністрацыяй ВНУ, кантралюецца ўплыў адміністрацыі інтэрната на дзейнасць Рады, гарантуецца садзейнічанне з боку рэктарата.

# ВЫСЯЛЕННЕ. АДПРАЦОЎКІ

Паспрабуем разабрацца ў відах парушэнняў і спагнанняў для жыхароў інтэрнатаў БДУ, маючы на ўвазе, што для ўсіх ВНУ Беларусі гэтыя правілы падобныя.

**1. Нязначныя парушэнні Правіл унутранага распарадку:**

- Нязначны антысанітарны стан пакоя або блока.
- Зрыў дзяжурства на паверсе або вахце.
- Незахаванне цішыні пасля 23.00.
- Неэканомнае спажыванне электраэнергіі, газу, вады.

*Штрафныя адпрацоўкі (10–20 гадзін, прызначаюцца аўтаматычна без разгляду на паседжанні студэнцкай Рады).*

**2. Менш грубыя парушэнні Правіл унутранага распарадку, здзейсненыя ўпершыню:**

- Пакіданне староннняй асобы ў пакоі пасля 23.00, прыход у інтэрнат пасля 00.00 без уважлівай прычыны.
- Антысанітарны стан пакоя або блока.
- Парушэнне прапускнога рэжыму.
- Незахаванне цішыні пасля 23.00 падчас іспытавай сесіі.

*Заўвага + штрафныя адпрацоўкі (10–30 гадзін).*

**3. Менш грубыя парушэнні Правіл унутранага распарадку, здзейсненыя паўторна:**

*Вымова або вымова + штрафныя адпрацоўкі (30–40 гадзін).*

**4. Меней грубыя парушэнні Правіл унутранага распарадку, якія здзяйсняюцца сістэматычна:**



*Пазбаўленне месца ў інтэрнаце.*

**5. Грубыя парушэнні Правілаў унутранага распарадку, здзейсненыя ўпершыню:**



- Перадача пропуска староннняй асобе, падробка пропуска.
- Грубае парушэнне санітарных норм пражывання.
- Карыстанне электрабытавымі награвальнымі прыборамі, пашкоджанымі разеткамі, выключальнікамі; пакіданне без нагляду ў жылым памяшканні тэлевізараў, магнітафонаў, электраплiт на кухні і г.д.).





*Вымова або вымова + штрафныя адпрацоўкі (30–40 гадзін).*



**6. Грубыя парушэнні Правіл унутранага распарадку, здзяйсненыя паўторна.**



*Пазбаўленне месца ў інтэрнаце або пазбаўленне месца ў інтэрнаце + хадайніцтва аб адлічэнні.*



**7. Асабліва грубыя парушэнні Правіл**










- Самавольнае пакіданне староннíх асоб, пранікненне або дапамога ў пранікненні ў інтэрнат праз вокны, балконы.
- Асабліва грубае парушэнне санітарных норм.
- Самавольнае пераабсталяванне і перапланіроўка памяшкання.
- З'яўленне ў нецвярозым выглядзе, распіццё спіртных напояў.
- Бойка.
- Нанясенне матэрыяльнай шкоды.
- Запазычанасць па адпрацоўках (парушэнне правіла «100 гадзін»).
- Яўная праява непавагі да супрацоўнікоў інтэрната.
- Курэнне ў пакоі або блоку.
- Несвоечасовая аплата за інтэрнат.
- Несвоечасовае вызваленне інтэрната.

*Пазбаўленне месца ў інтэрнаце або пазбаўленне месца ў інтэрнаце + хадайніцтва аб адлічэнні (у выпадку нанясення матэрыяльнай шкоды – абавязковае пакрыццё шкоды).*

**8. Грубыя парушэнні Правіл унутранага распарадку пасля пазбаўлення месца ў інтэрнаце:**

*Забарона наведвання інтэрната або забарона наведвання інтэрната + хадайніцтва аб адлічэнні.*

**9. Грубае парушэнне Правіл унутранага распарадку пасля забароны наведвання інтэрната.**

*Хадайніцтва аб адлічэнні.*



**Юрась Пятухоў, аспірант БДУІР:**

*– Інтэрнаты беларускіх ВНУ – гэта сістэмы з перажыткамі феадалізму, рабаўладальніцтва, і першабытнасці. Усё ў сукупнасці называецца дысцыплінай і парадкам. Даволі часта не ўлічваюцца натуральныя маральныя правы чалавека – прыходзіць і пакідаць сваю тэрыторыю тады, калі хочаш (у цвярозым стане), прыводзіць гасцей з іншых ВНУ падчас сесіі і іншае. Таксама даводзіцца сустракацца са звычайным хамствам. Калі ж пачынаюцца нейкія спробы змяніць такі нечалавечы*

*лад, прыводзіцца найбольш нізкі і цынічны аргумент: «Не падабаецца – жывіце на кватэры». Гэта сістэмная праблема, пры вырашэнні якой варта заўсёды памятаць, што НІХТО не здолее падтрымліваць парадак у інтэрнатах, акрамя саміх ягоных насельнікаў.*

# ІНТЭРНАТ ДЛЯ СЯМЕЙНЫХ СТУДЭНТАЎ





Памяшканне ў інтэрнаце выдзяляецца сямейным студэнтам толькі ў тым выпадку, калі і муж, і жонка з'яўляюцца іншагароднімі, 2 разы ў год (перад пачаткам кожнага з семестраў).





## Пазачарговае права на атрыманне памяшкання ў інтэрнаце маюць:



- Адзінокія маці;
- Студэнты з ліку дзяцей-сірот і прыроўненых да іх асоб;
- Студэнты-інваліды і асобы з недахопамі фізічнага развіцця;
- Студэнты са шматдзетных сем'яў (3 і больш дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў);
- Студэнты, пацярпелыя ад аварыі на ЧАЭС.









## Першачарговае права на атрыманне жылля

• Сем’і, у якіх муж і жонка з’яўляюцца студэнтамі адной і той жа навучальнай установы і маюць дзіця (дзяцей);



• Сем’і, у якіх муж і жонка з’яўляюцца студэнтамі адной і той жа навучальнай установы і не маюць дзяцей;



• Сем’і, у якіх муж або жонка з'яўляецца студэнтам дадзенай ВНУ і якія маюць дзіця (дзяцей).



Рашэнне прымаецца камісіяй на падставе асабістай заявы рэктару, завізаванай дэканам факультэта. Таксама трэба прад’явіць пашпарты.



Рэгістрацыя студэнцкіх сем’яў здзйсняецца на ўмовах наяўнасці дамовы найма жылога памяшкання.





## Пазбаўленне месца ў інтэрнаце

• Муж ці жонка не пражывае ў інтэрнаце без уважлівай прычыны на працягу 3 месяцаў;



• Пасля заканчэння ВНУ;

• Пасля пераводу на завочную форму навучання;

• У сувязі з акадэмічным адпачынкам;

• Пры адлічэнні мужа або жонкі з ВНУ.

Па усіх вышэйназваных пунктах, калі яны тычацца мужа або жонкі, пытанне аб вызваленні памяшкання разглядаецца адміністрацыяй ВНУ.

**Заўвага:** у выключных выпадках камісія ВНУ па засяленні ў інтэрнат можа прымаць спецыяльныя рашэнні з ўлікам канкрэтнай сітуацыі.

Такім чынам, найбольш верагодна атрымаць памяшканне ў інтэрнаце пры наяўнасці дзяцей і льгот. Як сведчыць досвед, калі падаць дакументы тэрмінова, адміністрацыя ВНУ ідзе насустрач.



# ПРАПУСКНАЯ СІСТЭМА

1. Уваход у інтэрнат для жыхароў адчынены з 6.00 да 00.00.

2. Староннія асобы дапускаюцца ў студэнцкія інтэрнаты штодзённа з 9.00 да 22.00 і не пазней 23.00 абавязаны іх пакінуць.

**Заўвага:** падчас іспытавай сесіі ўваход у інтэрнат дазволены толькі студэнтам дадзенай ВНУ. Падчас вакацый, асобам, што не пражываюць у інтэрнаце, уваход забаронены, за выключэннем замежных студэнтаў пры прадстаўленні імі адпаведнага дакумента.

3. Людзі, што не маюць пры сабе пасведчання асобы, а таксама грамадзяне, што знаходзяцца ў стане алкагольнага, наркатычнага ці таксічнага ап'янення, у інтэрнат не дапускаюцца.

4. Пры ўваходзе ў інтэрнат жыхары абавязаны прадставіць дзяжурнаму пропуск, а наведвальнікі – пасведчанне асобы і зарэгістравацца ў кнізе ўліку наведвальнікаў.

5. Жыхар, што запрасіў наведвальніка, абавязаны сустрэць яго на вахце і пакінуць у дзяжурнага свой пропуск. Пры выхадзе з інтэрната ў кнізе наведвальнікаў робіцца адзнака аб часе яго выхаду і заўвагі, калі яны ёсць. Жыхар, што запрасіў наведвальніка, нясе адказнасць за яго своечасовы выхад з інтэрната, а таксама за выкананне ім Правіл унутранага распарадку.



# І НАКОНТ АДПРАЦОВАК

Жыхары інтэрната прыцягваюцца адміністрацыяй і органамі студэнцкага самакіравання да грамадска карыснай працы (4 гадзіны на месяц) па правілах аховы працы.

**Заўвага**: не дапускаецца прыцягненне жыхароў да прыбірання санвузлоў (акрамя санвузлоў у блоках), памяшканняў для душа, пральні і сушкі бялізны.










# ЯК ЖЫВУЦЬ БЕЛАРУСКІЯ СТУДЭНТЫ Ў ІНТЭРНАТАХ?[10]

Студэнцкія гады – своеасаблівы час у жыцці кожнага. Гэта новыя знаёмствы, планы, цікавасці і захапленні, узлёты і падзенні, а часам... новыя жыллёвыя ўмовы. Так, гэта тычыцца тых студэнтаў, хто прыехаў вучыцца ў іншы горад. «Дзе жыць?» – такое пытанне паўстае адразу пасля паступлення ў навучальную ўстанову. Нехта будзе здымаць кватэру. Ну а некаму пашчасціць атрымаць месца ў інтэрнаце.



Мы абышлі універсітэцкія інтэрнаты Мінска (з кожнай ВНУ па адным метадам «навуковага тыку») з мэтай высветліць... перафразуем Някрасава ды атрымаем: «Каму ў інтэрнаце жыць добра».

## БДТУ




Першы прыпынак – інтэрнат № 1 Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта. Адразу бачна: гэты інтэрнат быў родным для шматлікіх пакаленняў студэнтаў. Будынак ужо стары, зрэшты, як і большая частка іх на вуліцы Бабруйскай.

Заходзім у інтэрнат. Нас сустракаюць вахцёркі: «Вашы дакументы!» Добра, добра, не трэба хваляваціца. Працягваю ёй свой чытацкі білет. Яна ўважліва глядзіць на білет, на мяне, зноў на білет, потым пільна перапісвае нумар майго чытацкага (напэўна, будуць шукаць у бібліятэцы). Ура, мы прайшлі вахцёрскі «фэйс-кантроль».

Вось звычайны пакой. На стале ляжаць карты, дыскі – усё, што трэба студэнту для плённай вучобы. Пакой невялікі. Хлопцы занавескай падзялілі яго на дзве часткі. У першай – шафа, вісіць адзенне, стаіць абутак, у другой – ложкі, тумбачкі, стол. Пакой разлічаны на чатырох чалавек.




На кожным паверсе інтэрната па дзве ўмывальні і прыбіральні (мужчынскіх і жаночых адпаведна). Таксама ёсць два душы. Яны знаходзяцца ў на ніжнім паверсе, працуюць па графіку.






На адным паверсе дзве кухні. Студэнты кажуць, што вялікай чаргі звычайна няма, так што гатаваць можна без праблем. Галоўнае, каб было што гатаваць!
Па афіцыйных звестках, у інтэрнат засяляюць каля 60 адсоткаў жадаючых. Звяртаюць увагу, на якім аддзяленні вучышся: бюджэтным ці платным. Потым глядзяць на льготы. Праўда, калі льготы маеш сур'ёзныя, будзе табе інтэрнат. Плацяць за жыллё тут каля 15 тысяч рублёў штомесяц.










# ІНСТЫТУТ КУЛЬТУРЫ

Крочым далей. Бачым перад сабой інтэрнат №2 Белдзяржуніверсітэта культуры і мастацтваў (у народзе – кулёк).



Вахту праходзім без праблем. Нават распісвацца не трэба, дастаткова проста пакінуць свае дакументы на вахце. Паднімаемся на ліфце.

Сістэма тут блочная. У блоку – два пакоі. У кожным блоку ёсць прыбіральня і душ. Яшчэ адзін плюс – у кожным блоку ёсць балкон. А кухня адна на паверх. Калідоры акуратныя. Тут нядаўна быў рамонт, а недзе ён яшчэ працягваецца. Пакоі невялікія, кожны разлічаны на трох чалавек. Дарэчы, другі паверх запаланілі кітайцы. Тэндэнцыя, аднак...




Варта зазначыць, што засяляюць усіх жадаючых. Плаціць за інтэрнат трэба таксама каля 15 тысяч штомесяц.

# БДАТУ

Далей – шосты інтэрнат Беларускага дзяржаўнага аграрнатэхнічнага універсітэта.

«Ну калі вы ўжо перастанеце хадзіць?» – нявета сустрэ-

ракае вахцёрка. Пакідаем дакументы, праходзім. «Калі раптам адчуеш камунальныя пахі...» – чамусьці ўзгадваюцца добра вядомыя радкі.






У інтэрнаце пяць паверхаў. І незразумела, якая тут сістэма: блочная ці калідорная. Пакоі, прыбіральні, умывальні і кухні чаргуюцца ў шахматным парадку.





Пакой даволі вялікі. Разлічаны на трох чалавек.

Спускаемся на ніжні паверх. Тут знаходзяцца два душы – мужчынскі і жаночы. Іх раздзяляе сцяна.

Кошт жылля – 15 тысяч штомесяц. У інтэрнат засяляюць усіх першакурснікаў, а потым глядзяць па рэйтынгу.













# АКАДЭМІЯ КІРАВАННЯ

Наступны прыпынак – інтэрнат Акадэміі кіравання. Ён знаходзіцца на Сурганава: там інтэрнаты БНТУ, а акадэмія арэндуе памяшканні для сваіх студэнтаў.

Спакойна праходзім вахту. Ідзём па калідоры. Светла, акуратна. Бачым більярдны пакой. Нядрэнна для інтэрната.




Тут пяць паверхаў. Сістэма калідорная. На кожным паверсе па дзве кухні, ёсць прыбіральні, умывальні. Дзесьці на ніжнім паверсе знаходзяцца мужчынскія і жаночыя душы.




Пакой сярэдніх памераў, разлічаны на чатырох чалавек. Адразу звяртаеш увагу на двух'ярусны ложак.



# БДЭУ



Не спыняемся. Вось і чацвёрты інтэрнат Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. 13 паверхаў.

У гэтым інтэрнаце блочная сістэма, у кожным блоку па два пакоі, таксама маюцца прыбіральня і душ.







Заходзім у пакой. Даволі вялікі. Разлічаны на трох чалавек. Хапае месца для вялікага стала, шафы.



У інтэрнаце дзве кухні на паверх. Дзяўчаты кажуць, што вялікай чаргі звычайна не бывае.











Вельмі спадабалася тое, што на кожным паверсе ёсць так званы пакой па інтарэсах. Тут табе і зала харэаграфіі, і бібліятэка, і трэнажорка, і зала настольнага тэніса. Але што за гукі такія?! Мы чуем вельмі моцныя ўдары бубнаў. Гэта музычны салон. Тут рэпеціруе універсітэцкі гурт. Засяляюць у інтэрнаты БДЭУ у залежнасці ад таго, якія льготы мае студэнт. Жыллё на месяц каштуе 15 тысяч.



# БДУ





Мы ў Гаі, у філіяле БДУ, што знаходзіцца за МКАДам, ля вёскі Шчомысліца. Перад намі дзесяты інтэрнат Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Нас сустракаюць ветлівыя вахцёркі. Вось так выглядае хол пры ўваходзе.




Паднімаемся на ліфце. Акуратныя калідоры. Тут блочная сістэма. У кожным блоку ёсць свая кухня, душ, прыбіральня.





Пакоі даволі вялікія. Яны разлічаны на трох чалавек. Гэта інтэрнат першага класа, таму падсяляць чацвёртага нельга.



У інтэрнаце чатыры карпусы. Усе яны злучаны паміж сабой. Дарэчы, памяшканні спартзалы і бара таксама злучаны з інтэрнатам, хаця і размешчаны ў іншых карпусах. Ёсць трэнажорная зала, зала для





настольнага тэніса. На кожным паверсе знаходзяцца пакоі самападрыхтоўкі. Плацяць 15 тысяч штомесяц. Каб атрымаць інтэрнат, трэба мець пэўныя льготы.



# БНТУ















Інтэрнат № 4 Беларускага нацыянальнага тэхнічнага універсітэта. Нядрэнна размясціліся – проста на цэнтральным праспекце.

На паверсе дзве кухні, дзве ўмывальні. На калідорах дынамікі. Хлопцы распавядаюць, што раніцай камендант у мікрафон будзіць студэнтаў: «Пад'ём! Пара на заняткі!» Пакой сярэдніх памераў, жывуць тут па тры чалавекі. Падтрымліваць форму можна ў трэнажорнай зале.





Хлопцы скардзяцца, што ў інтэрнаце мала дзяўчат. Ну, тэхнічная ВНУ ўсё ж. Пражыванне ў інтэрнаце каштуе 15 тысяч штомесяц. Пры засяленні звяртаюць увагу на льготы. Але сітуацыя ненапружаная, і засяляюць усіх жадаючых.





# РАЗМЕРКАВАННЕ – ЯК З ГЭТЫМ ЖЫЦЬ?[11]



Ад савецкага мінулага ў спадчыну нашай сістэме адукацыі дасталіся розныя традыцыі. Пра гэта любяць казаць чыноўнікі і кіраўнік дзяржавы. З гэтых традыцый студэнту засталіся падручнікі, спісаныя парты і некаторыя выкладчыкі. Пяцібальная сістэма саступіла месца дзесяцібальнай, а бясплатная адукацыя з кожным годам пагражае знікнуць. Прынамсі, цяжка назваць бясплатным тое, за што мусіш пасля адпрацоўваць 2 гады.



Артыкул 49 Канстытуцыі РБ пра тое, што «кожны можа на конкурснай аснове бясплатна атрымаць адпаведную адукацыю ў навучальных установах», абітурыенты могуць паўтараць на памяць штораз перад сном, аднак гэта на сітуацыю не паўплывае. Да пятага курса многія бюджэтнікі ідуць на ўсё, каб размеркавацца так, каб пасля не было балюча.

Многія ж свядома выбіраюць платную форму, калі маюць сродкі. Цікава, што яшчэ ў 1991 годзе ў Законе “Аб адукацыі” забаранялася скарачаць колькасць бюджэтных месц на карысць платным. А ў сённяшнім законе замацавана размеркаванне выпускнікоў ВНУ. Паводле артыкула 10, адпрацоўка для студэнтаў прафесійна-тэхнічнай адукацыі складае год, а вышэйшай – 2. Мэтавае размеркаванне мала адрозніваецца ад звычайнага: студэнта проста пасылаюць у тую арганізацыю, ад якой ён паступаў.










# РАБСТВА Ў ЦЭНТРЫ ЕЎРОПЫ?




Акрамя артыкула пра бясплатную адукацыю, у Канстытуцыі ёсць артыкул 4, які забараняе прымусовую працу, калі яна не прызначана судом, а ў краіне не надзвычайнае ці ваеннае становішча. У адпаведнасці з Канвенцыяй Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) № 29, пад прымусовай працай разумеюць працу ці службу, выкананне якой патрабуецца ад чалавека пад пагрозай, а гэты чалавек выконвае яе не па ўласным жаданні. Міжнародны пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах таксама нагадвае пра тое, што нікога нельга прымушаць працаваць. Беларусь з'яўляецца ўдзельнікам Канвенцыі МАП № 105 «Аб адмене прымусовай працы».

Суседнія краіны вопыт прымусовага размеркавання не практыкуюць. У Расіі і Украіне такая мера тычыцца толькі выпускнікоў спецыялізаваных ВНУ, што падпарадкоўваюцца МНС, МУС, ФСБ і інш.

# ВУЧЫЦЦА НА БЮДЖЭЦЕ, КАБ ПАСЛЯ ЗАПЛАЦІЦЬ

На канец 2007 года ў Беларусі было заведзена больш за 70 крымінальных спраў супраць студэнтаў, што не даехалі да месц, куды іх размеркавалі. Іх прымушаюць выплаціць ад 3 да 5 тысяч долараў. Сумы фіксаванай няма. Як заявіў міністр адукацыі Аляксандр Радзькоў, квітанцыю выпускнікам выпіша дэканат. Практыкуецца вопыт выплачвання сумы фірмай. Як прыклад, міністр адзначыў рэзідэнтаў Парка высокіх тэхналогій.

## 10 спосабаў, як пазбегнуць размеркавання ці зрабіць яго найменш балючым

**1. Паступіць на платнае навучанне.** Сярэдні кошт за год

навучання па краіне – 1100 долараў, але ён мае тэндэнцыю да росту. Платнікаў пакуль не чапаюць, таму ісці працаваць яны могуць туды, куды пажадаюць.

**2. Быць выдатнікам і лаўрэатам Фонду па падтрымцы таленавітай моладзі пры прэзідэнце.** Менавіта ім прадастаўляецца права першымі выбраць сабе будучае месца працы. Хаця, калі студэнт моцна жадае размеркавацца ў прыватную кантору, гэта спрацуе не заўсёды. Выбар даюць толькі сярод дзяржаўных. Гэта цяпер прыярытэт.

**3. Быць замежнікам.** Гэта, здаецца, самае простае: адвучыўся – і зваліў у свой Іран. Але калі пастаяннае месца жыхарства – Беларусь, нават з замежным пашпартам прыцягнуць да размеркавання.

**4. Быць інвалідам.** Як бы гэта недалікатна ні гучала, але калі ёсць «група», то ёсць і льготы пры размеркаванні. Нават калі нехта з бацькоў ці муж (жонка) – інвалід І ці ІІ групы, месца працы прадастаўляецца па жаданні выпускніка.

**5. Быць міліцыянерам, спартсменам ці выратавальнікам.** Гэта не толькі ганаровая служба, але і выбар месца працы за выпускніком. Калі ж у студэнта муж (жонка) займае пасаду ў дзяржорганах, МЗС і накіраваны ў камандзіроўку, служыць у войску, працуе ў Службе бяспекі прэзідэнта, КДБ, МЗС, мытні, МНС, пракурорам, то месца працы прадастаўляецца па месцы праходжання службы мужа (жонкі).

**6. Выйсці замуж (ажаніцца).** Увага! Пункт не дае стопрацэнтнай гарантыі. Супярэчнасць выклікае пункт “пры наяўнасці месцаў мужа і жонку накіроўваюць у адно месца”. Гэтаксама можа здарыцца і ў выпадку, калі муж (жонка) ужо працуе ў пэўным горадзе (вёсцы). Тое ж тычыцца шлюбу з замежнікам, які пастаянна жыве не ў Беларусі. Прыйдзецца выпускніку шукаць прадстаўніцтва якой-небудзь беларускай арганізацыі, скажам, у Нямеччыне, каб размеркавацца туды.

**7. Аказацца незапатрабаваным спецыялістам.** Такое сапраўды можа быць. Напрыклад, студэнтаў фізфака БДУ могуць накіраваць ці на выкладанне, ці ў Акадэмію навук. Аднак












там і сваіх спецыялістаў хапае, таму выпускнікі шукаюць працу самастойна.



**8. Нарадзіць дзіця.** Як сказалі б рэкламісты, вынік апраўдае сябе. Многія дзяўчаты заціжарваюць з тым разлікам, каб да канца пятага курса мець вялікі круглы жывот і мужа. І нават калі размяркуюць у якую-небудзь вёску, то можна спакойна гадаваць дзіця 3 гады ў дэкрэтным адпачынку, а тым часам гэта залічваецца ў тэрмін працы.

**9. Пайсці ў войска.** Парадокс: паступаюць у ВНУ, каб войска пазбегнуць, а ў войска ідуць, каб пазбегнуць размеркавання. Аднак не ўсё так проста. Выпускнік праслужыць толькі год, а яшчэ адзін яму прыйдзецца адпрацаваць.

**10. Заплаціць грошы дзяржаве.** Гэтага абавязкова запатрабуюць ужо праз тры дні, калі студэнт не з'явіцца на месца размеркавання. Паводле закона працадаўца мусіць паставіць у вядомасць пра гэта навучальную ўстанову. Калі ж грошай шкада, застаецца паступіць у аспірантуру, каб яшчэ вучыцца, вучыцца і вучыцца…

Кожны ставіцца да размеркавання па-свойму. Аднак у цэлым гэтая працэдура нагадвае замалёўку з мышкай, сырам і мышалоўкай. Мышалоўка (універсітэт) заманьвае мышак сырам у свае калідоры, перад гэтым прапусціўшы іх праз строгі фэйс- і не толькі кантроль каб пасля зачыніць дзверы, прышчаміўшы хвост. І мыш сядзіць сабе 5 гадоў, грызе сыр, які аказваецца часта не такім, якім падаваўся (і падабаўся). Ёй ласкава, з рэгулярнасцю 2 разы на год, прапануюць пакінуць мышалоўку, але ў канцы прышчэплены хвост перадаюць іншай мышалоўцы. А калі збег, перад мышшу з'яўляецца кот. І тут пачынаецца зусім іншая размова…



# РЭГІСТРАЦЫЯ: КОЖНЫ МУСІЦЬ БЫЦЬ ПАМЕЧАНЫ[12]

*Гэты вельмі актуальны для выпускнікоў ВНУ раздзел дазволіць разабрацца ў значэнні працэдуры прывязкі да месца пражывання і прасякнуцца таемствам рэгістрацыі, так неабходнай для размеркавання ў той населены пункт, які ты абярэш.*




«Кожная дзяўчына з філфака чакае прынца на белым «мерседэсе» і з мінскай прапіскай». Гэты жарт можна смела ўносіць у беларускі фальклор, прычым як мага хутчэй, а то прыйдзецца аматарам народнай творчасці вышукваць яго праз некалькі гадоў, бо такі інстытут, як прапіска, з 1 студзеня 2008 года перастаў існаваць. На змену яму прыйшла рэгістрацыя: з аднаго боку, невядомая, з другога – шматабяцаючая. Маўляў, і прасцей будзе, і ценявога бізнесу не будзе. Толькі атрымалася ў жыцці інакш. Філфакаўкі зараз мараць пра прынца на белым «мерседэсе» з мінскай кватэрай.



## Рэгістрацыя – твой абавязак?

Як бы страшна ні гучала, але рэгістрацыя па месцы жыхарства – абавязак кожнага. Пра гэта сцвярджае Указ прэзідэнта № 413 «Аб удасканаленні сістэмы ўліку грамадзян па месцы жыхарства і месцы знаходжання». Гэта тычыцца і выпускнікоў ВНУ. Перад тым, як ісці ў дэканат на канчатковае размеркаванне, падумай, ці ёсць у цябе рэгістрацыя ў тым горадзе, куды ты сам хацеў бы патрапіць.

## Што патрэбна для рэгістрацыі

Сапраўды, як і абяцалі чыноўнікі, бюракратызму з рэгістрацыяй паменшылася. Проста бярэш пашпарт, ваенны білет (калі










ён у цябе ёсць) і ідзеш у ЖЭС. І ад 3 да 13 дзён афармляюцца дакументы. Гэта афіцыйна. На справе ўсё можа атрымацца куды хутчэй. Самае галоўнае, што цяпер не трэба здымацца з уліку былога месца прапіскі. Мабыць, нарэшце органы рэгістрацыі наладзілі паміж сабой камунікацыю (ці проста навучыліся карыстацца тэлефонам/поштай/аськай).

## Зарэгіструю – танна! Зарэгіструюся – дорага!

Наіўныя чыноўнікі вырашылі, што з ліквідацыяй прапіскі, знікне і ценявы рынак. Ён хіба толькі трохі паменшыўся. І абвесткі цяпер у газетах памяняліся на «зарэгіструю» і «зарэгіструюся».




Вова ў гэтым годзе заканчвае фізфак БДУ, размеркавацца хоча ў прыватную арганізацыю ў Мінск, дзе з яго рэгістрацыі не патрабуюць. Але чамусьці пры размеркаванні рэгістрацыя патрэбна менавіта для ВНУ. Прапіска ж у хлопца заканчваецца ў чэрвені гэтага года.

*– Праблему я вырашыў хутка. Знайшоў праз знаёмых жанчыну, якая мае дом у Калодзішчах (Мінскі раён). Наколькі я зразумеў, у тым доме зарэгістравана яшчэ некалькі чалавек, бо на аднаго трэба 15 метраў (а ў Мінску – 20, –* **заўв. рэд**.*). Пайшлі з дакументамі ў сельсавет і за гадзіну я меў штамп у пашпарце, а жанчына – 250 долараў у кішэні.*

## Архаізм савецкага перыяду ці жыццёвая неабходнасць?

Не паспелі з рэгістрацыяй пажыць, як тут жа яе пачалі лаяць: архаізм, парушэнне свабоды! Рэгістрацыя вядома свету. Існуе яна і ў Расіі, і ў Польшчы. А ў Беларусі, як рэгістрацыю ні лай, але хочаш не хочаш, а гэты акт лібералізму прызнаецца, хоць і абзываецца архаізмам савецкага перыяду.

# ПЕРШАЕ ПРАЦОЎНАЕ МЕСЦА

## Мэтавае размеркаванне VS аграгарадкі



Пра сваё размеркаванне і працу ў якасці маладога спецыяліста большасць студэнтаў пачынаюць задумвацца ўжо на першых курсах. Праўда, калі напачатку гэтыя развагі далёкія і абстрактныя, то бліжэй да заканчэння матэрыялізуюцца ў напружанае чаканне альбо ліхаманкавы пошук працы.

Ёсць, аднак, і тыя, хто ўжо з першага курса ведаюць, дзе будуць працаваць бліжэйшыя два гады пасля заканчэння універсітэта. Упэўненасць маюць яны праз мэтавае накіраванне ад дзяржаўных арганізацый ці мясцовага выканаўчага органа.



Згодна з заканадаўствам, прыём абітурыентаў на ўмовах мэтавай падрыхтоўкі ажыццяўляецца ў межах 20 адсоткаў ад агульнай колькасці прыёму на спецыяльнасць. Колькасць заяў у конкурсе на мэтавае месца не абмяжоўваецца. Для такіх абітурыентаў ствараецца асобны конкурс. Абітурыент павінен мець адзнакі не ніжэй за 6 балаў. А тыя, хто не пройдзе па спецыяльным конкурсе, маюць права ўдзельнічаць у агульным. Гарантыя паступлення звычайна высокая. Вяртанне – чаканае. Толькі сама праца маладому спецыялісту не заўсёды даспадобы.

– *Праца з дзецьмі мне вельмі падабаецца,* – дзеліцца Юля, маладая настаўніца з Мар'інай Горкі, – *а вось астатняе… выклікае шмат цяжкасцяў. Адміністрацыя звычайна гатова тры шкуры спусціць за маленькую недапрацоўку, хаця да гэтага ніхто нічога не растлумачваў. Таму вельмі крыўдна, калі лаяцца.*

Кажуць, галоўнае – займацца любімай справай, а грошы і матэрыяльны дабрабыт – другараднае. Толькі як выхаваць у










маладых спецыялістаў такую хрысціянскую мараль, дзяржава яшчэ не прыдумала. Вечнае пытанне нізкай аплаты настаўніцкай працы турбуе перш за ўсё.



*– Я люблю сваю працу, але, калі скончыцца тэрмін адпрацоўкі, у школе не застануся. Бо ў нас гэтая дзейнасць незапатрабаваная і не аплочваецца належным чынам. Рукі апускаюцца, калі хочаш дзецям даць цікавыя заданні, рэалізуеш свае універсітэцкія напрацоўкі, разнастайваеш працу, а потым прыходзяць бацькі і скардзяцца: маўляў, што вы нашых дзяцей нагружаеце… Пасля такога выпадку я цэлы месяц маральна адыходзіла, з класам толькі па падручніку працавала…*

Мэтавае размеркаванне істотна спрашчае жыццё студэнту, будучаму выпускніку, пазбаўляе клопатаў пра месца працы. Тым больш што вяртанне дадому павінна радаваць і надаваць стымул на сваім першым працоўным месцы. Але не заўсёды гэта так, як у ідэале, – пасля пяці гадоў навучання прыярытэты змяняюцца. І як быць маладому спецыялісту, які, знайшоўшы сабе перспектыўнае месца працы ў вялікім горадзе, уладкаваўшы сваё жыццё, дачакаўся мэтавага размеркавання?! У такім выпадку набліжэнне  апошніх іспытаў – зусім не свята.

Студэнтка Алена вучыцца на пятым курсе і мае мэтавае размеркаванне ў горад Копыль Мінскай вобласці. Яна ўжо замужам і актыўна праходзіць практыку спецыяліста па сувязях з грамадскасцю ў сталіцы… Але гэта не выклікае ў яе упэўненасці ў заўтрашнім дні:

*– Паводле Палажэння аб размеркаванні мяне павінны размеркаваць там, дзе працуе мой муж, а не па мэтавым накіраванні. Але справа ў тым, што мой муж беспрацоўны. Я, вядома, збіраю ўсе магчымыя дакументы, каб адмовіцца ад*



*мэтавага размеркавання, але ў выпадку, калі ўсё ж размяркуюць, вырашыла цвёрда – не буду пісаць дыплом і адлічуся. А навошта вучыцца?! Каб паехаць у Копыль? Лепей пайсці працаваць і давучыцца ў іншай установе.*

Меркаваць пра перавагі і недахопы мэтавага размеркавання абітурыентам варта загадзя. Лепш спачатку ўзважыць свае шанцы на паступленне праз агульны конкурс. Бо калі веды дасканалыя, то праз пяць гадоў будзе выбар: ці паехаць дадому, ці будаваць сваё жыццё ўжо зусім па іншым сцэнарыі.



# МАЛАДЫ СПЕЦЫЯЛІСТ – ГЭТА ГУЧЫЦЬ ГОРДА![13]

## Што за фрукт такі?

Калі ты вучыўся на бюджэце, толькі што скончыў вышэйшую навучальную ўстанову, тэхнікум, каледж або прафесіянальна-тэхнічнае вучылішча і быў накіраваны на працу па размеркаванні – гэта пра цябе. Калі ты вучыўся на платным аддзяленні ці атрымаў вольны дыплом – ты ўжо не маеш такога статусу.

Калі разабрацца, то не ўсё так кепска, і не толькі агра-










гарадкі цябе чакаюць ды двухгадовае выкананне святога абавязку перад Радзімай, але і шэраг новых гарантый і прывілеяў. Твая задача – пільна сачыць за тым, каб усе гулялі па правілах, а не “як прыйдзецца”.

Калі цябе забіраюць у войска, але ты хочаш па вяртанні працаваць там, куды цябе размеркавалі, ты мусіш пісьмова паведаміць пра гэта наймальніку. Дарэчы, тэрмін службы залічваецца ў тэрмін абавязковай адпрацоўкі. Іншая справа, што камусьці прасцей адпрацаваць, чым адслужыць.



Існуе пастанова Савета Міністраў РБ[14], паводле якой ты маеш права на адпачынак на працягу цэлага месяца пасля заканчэння вучобы, незалежна ад таго, калі ты меў апошнія вакацыі. Акрамя гэтага, пасля заканчэння вучобы згодна з законам табе мусяць выплаціць грашовую дапамогу ў памеры тваёй апошняй стыпендыі. Для выпускнікоў ПТВ і тэхнікумаў – у памеры тарыфнай стаўкі ў адпаведнасці з прысвоенай кваліфікацыяй або згодна з акладам.

Тым, хто скончыў установу адукацыі па педагагічных спецыяльнасцях, дапамога выплачваецца за кошт сродкаў бюджэту ў памеры апошняй стыпендыі за 45 дзён. Дарэчы, заробак маладога педагога з усімі надбаўкамі складае ўсяго Br 320 400. Калі ты не атрымліваў стыпендыю ў апошнім семестры, то дапамога выплачваецца з разліку сацыяльнай стыпендыі, устаноўленай на момант выпуску. Дарэчы, калі ты размяркоўваешся сам, то грашовай дапамогі табе ніхто не дасць!

## Будуем гнёзды!

Калі цябе паслалі па размеркаванні куды падалей, то мясцовыя выканаўчыя органы і арганізацыі пры нястачы жыллёвага фонду могуць вылучыць сродкі для кампенсацыі выдаткаў на найм жылых памяшканняў у грамадзян.

У адпаведнасці з артыкулам № 96 Працоўнага кодэкса РБ, пры пераездзе на новае месца маладыя спецыялісты атрымліваюць[15]:

• кампенсацыю праезду работніка і членаў яго сям'і (муж, жонка, дзеці і бацькі мужа і жонкі, што знаходзяцца на іх утрыманні і пражываюць разам з імі) на тых жа ўмовах, што і пры накіраванні працаўніка ў службовую камандзіроўку;

• кампенсацыю выдаткаў па правозе маёмасці чыгуначным, водным і аўтамабільным транспартам (агульнага карыстання) у колькасці да 500 кг на самога работніка і да 150 кг на кожнага члена сям'і (са згоды бакоў могуць быць аплочаны выдаткі па перавозе большай колькасці маёмасці);

• сутачныя за кожны дзень знаходжання ў дарозе ў адпаведнасці з заканадаўствам аб службовых камандзіроўках;



• аднаразовую матэрыяльную дапамогу на маладога спецыяліста ў памеры яго месячнай тарыфнай стаўкі (акладу) па новым месцы працы і на кожнага члена сям'і ў памеры ¼ ад дапамогі на работніка.

• работнікам выплачваецца заробак зыходзячы з тарыфнай стаўкі (акладу) па новым месцы працы за дні збораў у дарогу і ўладкавання на новым месцы жыхарства, але не болей чым 6 дзён, а таксама падчас знаходжання ў шляху.

Калі загадзя немагчыма дакладна вызначыць памер кампенсацый для маладога спецыяліста, то яму выдаецца аванс. Кошт праезду членаў сям'і і правозу іх маёмасці, а таксама аднаразовая дапамога на іх выплачваюцца ў тым выпадку, калі яны пераязджаюць на новае месца жыхарства работніка да завяршэння аднаго года з дня фактычнай выдачы яму жылога памяшкання.

Усе выдаткі па выплаце кампенсацый маюць строга мэта-










вае прызначэнне, таму сродкі, выплачаныя выпускніку ў сувязі з яго пераездам на працу ў іншую мясцовасць, мусяць быць цалкам вернуты ў тых выпадках, калі ён:

• не з’явіўся на працу ці адмовіўся прыступіць да працы без уважлівых прычын;

• да заканчэння тэрміну працы, прадугледжанага заканадаўствам, быў звольнены за дзеянні, якія ў адпаведнасці з заканадаўствам сталі падставай спынення працоўнай дамовы.

## Малако за шкоднасць ;)

Паводле пастановы Савета Міністраў РБ[16], маладым спецыялістам з вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыяй, якія прыбылі на працу ў сельскагаспадарчыя арганізацыі па накіраваннях навучальных установаў, выплачваюцца даплаты да іх заробку ў памеры адной тарыфнай стаўкі першага разраду, устаноўленай урадам Рэспублікі Беларусь для работнікаў бюджэтнай сферы.

## Павышаныя заробкі?

Калі ты выпускнік-выдатнік або маеш ступень бакалаўра (магістра) БДУ, БНТУ, БДЭУ, БДПУ і накіраваны на працу па размеркаванні ў бюджэтную ўстанову, для цябе ўстанаўліваецца павышэнне на 10% тарыфнай стаўкі і службовага акладу. Калі ты прыпыняеш працу, гэта з’яўляецца падставай для скасавання павышэння службовага акладу[17].

## Хочуць звольніць?!

Не маюць права! Калі ты – малады спецыяліст, звольніць цябе практычна немагчыма, за шэрагам выключэнняў:

• калі ты пераходзіш на выбарную пасаду[18];

• калі ўстанова адукацыі вырашыла цябе пераразмеркаваць у іншае месца ці выдаць табе даведку аб самастойным працаўладкаванні;

• калі ты залічаны ва ўстанову адукацыі на навучанне дзённай формы для атрымання болей высокай ступені адукацыі;

• у выпадку парушэння наймальнікам заканадаўства аб працы, калектыўнай або працоўнай дамовы[19];

• у выпадку звальнення па ініцыятыве наймальніка на падставах, прадугледжаных заканадаўствам[20].

## “А кампот?”

Гэта яшчэ не ўсё. Табе, як маладому спецыялісту, паводле ўказа прэзідэнта РБ[21], калі цябе размеркавалі не па месцы жыхарства бацькоў або ў раёны, забруджаныя радыяцыяй, незалежна ад месца жыхарства бацькоў, мусяць даць льготныя крэдыты на працягу 2 гадоў на набыццё хатняй маёмасці і тавараў першай неабходнасці.






Каб атрымаць гэтыя крэдыты, трэба звярнуцца ў “Беларусбанк”. Крэдыт выдзяляецца ў памеры да 15-кратнага бюджэту пражытачнага мінімуму. На сярэдзіну 2008 года пражытачны мінімум склаў Br 200 тыс. 80.

Таксама трэба памятаць пра тое, што, каб заняць пэўную пасаду, табе неабходна прайсці стажыроўку, паводле вынікаў якой праводзіцца атэстацыя. Калі ты яе не прайшоў, цябе маюць права перавесці на іншую пасаду.

Калі паміж працадаўцам і маладым спецыялістам узнікае










спрэчка аб адмове ў заключэнні працоўнай дамовы, сітуацыя будзе вырашацца праз суд, а паслугі адваката па працоўных спрэчках у нашай краіне аказваюцца бясплатна.

# НЕ РАЗМЕРКАВАЎСЯ? ПЛАЦІ!

Згодна з афіцыйнай статыстыкай, у 2007 годзе на месцы размеркавання не даехалі 63 маладыя спецыялісты-педагогі. І гэта з улікам таго, што дзяржава прадугледзела штраф у памеры прыблізна 18 мільёнаў рублёў усім тым, хто не згодны адпрацоўваць неабходныя 2 гады. Але ж статыстыка – рэч упартая, і, як аказваецца, перспектыва на два гады застацца ў глухім кутку Беларусі бачыцца страшнейшай для некаторых выпускнікоў, чым нават вялікае грашовае пакаранне.



Палажэнне аб размеркаванні выпускнікоў, якія атрымалі прафесійна-тэхнічную, сярэднюю спецыяльную і вышэйшую адукацыю, прапісвае ўмовы размеркавання і рэгламентуе працу маладых спецыялістаў.

Вядома, не ўсе згодны вырваць з жыцця два гады. Так, шырока асветленай у СМІ аказалася гісторыя журналісткі Ксеніі Акімавай, яна стала вядомай дзякуючы перамозе ў намінацыі “Найлепшы блог” міжнароднага конкурсу “The BOBs-2007”. Ксенія адмовілася ехаць па размеркаванні, заявіўшы, што можа паспяхова працаваць і без дыплома. Праўда, рахунак у памеры 22 млн. рублёў быў і ёй прад’яўлены.

Палажэнне аб размеркаванні ўжо каторы год выклікае незадавальненне і аспрэчваецца спасылкамі на Канстытуцыю. Устаноўленая двухгадовая абавязковая адпрацоўка ўспрымаецца як парушэнне прынцыпу бясплатнасці атрымання вы-

шэйшай адукацыі ў дзяржаўных ВНУ.

Такой самай думкі прытрымліваецца і былы студэнт, выпускнік БДУІР Міхась. Незадаволены працай па месцы размеркавання, рашуча звольніўся і апынуўся ў катэгорыі дзяржаўнага даўжніка. Але пра свой выбар не шкадуе:

– *Калі мне забаранілі працаваць там, дзе я хачу, то я вырашыў, што маё рашэнне даражэйшае, яно не ацэньваецца ні ў 20 тысячах, ні ў 30… Справа прынцыпу. Я не шкадую – гэта таксама жыццёвы вопыт. Да таго ж я павысіў свае юрыдычныя веды – усё як мае быць.*





Сышоўшы з месца працы, былы студэнт разам з сябрамі сапраўды заняўся вывучэннем заканадаўства і стварыў тэматычнае інтэрнэт-кам'юніці **raspred_by**, дзе абмяркоўваюцца праблемы размеркавання, збіраюцца дакументы і разбіраюцца прававыя недакладнасці.

Найбольш відавочныя супярэчнасці, на думку стваральнікаў суполкі, датычацца канстытуцыйна замацаванага права на бясплатную адукацыю (артыкул 49), права на свабодны выбар прафесіі, роду заняткаў і працы (артыкул 41). Практыка размеркавання, па іх меркаванні, не дазваляе выпускніку самастойна выбіраць працу.










Вырашэнне ўласнай праблемы Міхась бачыць, але лічыць, што прымусовае размеркаванне – сацыяльная праблема. І прычына яе нявырашанасці не толькі ў слабой кансалідацыі студэнтаў.

– *Пытанне, у першую чаргу, у неадукаванасці. Студэнты не гатовы вырашаць свае праблемы. Яны мала што ведаюць пра свае правы.*

## А як варта было б змяніць Палажэнне?

Само размеркаванне – не кепска. Шмат каму яно дапамагае ўладкавацца, але трэба адмяніць яго прымусовасць. Праблема не ў тым, што дзяржава робіць ухіл на падтрымку сельскай мясцовасці, а ў тым, што стымулы не зусім нармальныя. Чалавеку не прапануюць добрыя ўмовы, перспектыву – яму кажуць: маўляў, ідзі адбывай два гады за тое, што ты вучыўся за кошт бюджэту. Дзяржава апускаецца на ўзровень звычайнага гандлю («купі-прадай»), не ўлічваючы, што адукаваны чалавек у будучыні аддасць краіне ў разы болей, чым той кошт, што выстаўляе універсітэт. Але пасля такога цяжка чакаць плённай працы...

Аднак пра адмену размеркавання пакуль думаць ніхто не збіраецца. Выконваць паказчыкі і забяспечваць кадрамі аддаленыя раёны нейкім чынам патрэбна. Таму яшчэ не адзін год будуць актуальныя пошукі недапрацовак у Палажэнні, а таксама прагматычныя, фіктыўныя шлюбы, якія разбураюцца праз пару гадоў, і дэкрэтныя адпачынкі «па патрэбе».



**Віталь Бірукоў, журналіст, сябра БАЖ, карэспандэнт www.moladz.org:**

– *БЯСПЛАТНАЯ АДУКАЦЫЯ ПАВІННА БЫЦЬ БЯСПЛАТНАЙ! Мы кожны дзень чуем, што ў нас найлепшая навучальная база, выкладчыкі і адукацыя на постсавецкай прасторы, і гэта праўда. Размеркаванне – гэта фактычна кампенсацыя дзяржаве за выдаткаваныя грошы на адукацыю. І гэта, з аднаго боку, правільна, бо, як вядома, бясплатны сыр толькі ў мышалоўцы... Але ці правільны гэты падыход, калі кожны дзень па тэліку нам кажуць, што, акрамя якасці, наша адукацыя яшчэ і бясплатная? За два гады адпрацоўкі ў маленькай вёсцы ў глыбінцы Беларусі выпускнік забывае ўсё, што ведаў, і, вяртаючыся ў*

*свой горад ці раён, з цяжкасцю знаходзіць там працу па спецыяльнасці.*

*З іншага боку, маладым спецыялістам вельмі цяжка ўладкавацца, бо паўсюль патрэбны вопыт працы. Таму такая мера, як размеркаванне, павінна існаваць, але ў добраахвотным парадку, калі студэнт сам не можа знайсці месца працы.*

# МОЛАДЗЕВЫЯ СУПОЛКІ Ў БЕЛАРУСІ І Ў СВЕЦЕ

## МОЛАДЗЕВАЯ ІНТЭРНЕТ-ПЛЯЦОЎКА “ВОКА”




**http://www.moladz.org/**

Моладзевая інтэрнет-пляцоўка "ВОКА" – гэта месца сустрэчы прадстаўнікоў віртуальнага грамадства Беларусі. На сённяшні дзень "ВОКА" з'яўляецца супольнасцю маладых, актыўных, таленавітых беларусаў з усяго свету. Моладзевая інтэрнет-пляцоўка "ВОКА" накіравана на выхаванне моладзі на глебе беларускай нацыянальнай ідэі, на данясенне яе да шырокіх колаў грамадства.



## UNITED FRIENDS FOREVER, АБО ПРОСТА UFF-BY




**Uff-by.org** — гэта жывая інтэрактыўная вэбстаронка, якая адлюстроўвае ўвесь спектр інтарэсаў беларускай моладзі. Аўтары распавядаюць пра самыя цікавыя падзеі ў Беларусі і за яе межамі, дапамаюць разабрацца з хвалюючымі праблемамі, падаюць матэрыял для роздуму і навучання, ствараюць пляцоўку для выказвання










думак і меркаванняў. Можна быць аўтарам, можна быць неабыякавым і пакідаць каментарыі,удзельнічаць у абмеркаванні чарговай цікавай тэмы. *“Разам мы – прасунутая, актыўная моладзь, якая любіць жыццё! Будзем сябрамі! United friends forever!”* – кажуць стваральнікі сайта.

# GENERATION.BY



**Generation.by** – гэта рэсурс для актыўных людзей і пляцоўка для рэалізацыі творчых ідэй. Праект “вырас” з сайта Studenty.by. Стваральнікі ўпэўненыя, што студэнцтва – гэта незабыўны час, які паказвае, што вучыцца насамрэч трэба ўсё жыццё. Час пошуку ўсяго новага, выпрабаванняў, навучання, прамацвання глебы для самастойнага жыцця, поўнага прыгод, шчырых сяброў, незабыўных уражанняў.

*“Мы хочам атрымаць ад жыцця ўсё. І хоць далёка не кожны сучасны беларускі хлопец ці дзяўчына мае зараз уласны iPod ці ноўтбук "Apple" і некаторыя з нас нават нарадзіліся яшчэ ў СССР, але ўсё роўна мы з'яўляемся першым пакаленнем, якое вырасла ў незалежнай Беларусі, што ўжо робіць нас чымсьці адметнымі. Мы – пакаленне, якое хоча дасягнуць усіх вяршыняў і ні сантыметрам меней, якое разумее, што ўладкоўваць сваё жыццё патрэбна самастойна.”*

# NEWLINECLUB




**http://newlineclub.net/**

"NEWLINE" – гэта моладзевая міжнародная адукацыйная супольнасць, арганізаваная ў 1999 годзе пасля І Форума дзяцей Беларусі "Мы разам" і пашыраная ў 2001 годзе да моладзевага адукацыйнага аб’яднання. Сёння яна з’яўляецца адной з паспяховых мо-

ладзевых ініцыятыў, якая падтрымлівае дзейнасць адукацыйнай супольнасці ў Беларусі.

**NEWLINECLUB** – гэта моладзевы праект некамерцыйнай, недзяржаўнай арганізацыі «Аднаўленне гуманітарнай адукацыі». Клуб – гэта дынамічная міжнародная структура, што аб'ядноўвае розныя інтарэсы, месца моладзевай дыпламатыі. У праектах прымяняюцца Інтэрнэт-тэхналогіі, а таксама праводзяцца рэальныя сустрэчы, семінары, канферэнцыі, летнікі.

# МІЖНАРОДНАЯ АДУКАЦЫЙНАЯ І РЭСУРСНАЯ СЕТКА Ў БЕЛАРУСІ

**www.iearn.org**




**iEARN у Беларусі** – гэта адна з праграм грамадскага аб'яднання "Аднаўленне гуманітарнай адукацыі", якая шчыльна звязана з адукацыйнымі і моладзевымі ўстановамі. Праграма штогод прыцягвае прыблізна трыста беларускіх студэнтаў да дзейнасці розных нацыянальных і міжнародных Інтэрнэт-праектаў.





# АМЕРЫКАНСКІ ЦЭНТР

**http://amcenter.by/**




Місіяй Амерыканскага цэнтра адукацыі і даследаванняў з'яўляецца развіццё ўзаемаразумення і праграм сумеснага навучання на міжнародным узроўні.





Асаблівую ўвагу АЦ надае наступным накірункам:

1. Праграмы адукацыйных абменаў для аспірантаў і асоб з вышэйшай адукацыяй.





Праграмы даюць магчымасць грамадзянам Рэспублікі Беларусь працягнуць адукацыю ў еўрапейскіх універсітэтах і атрымаць ступені бакалаўра, магістра і доктара або правесці












даследаванні ў галіне гуманітарных і сацыяльных навук.

2. Прадастаўленне іншай інфармацыі ў галіне адукацыі.

3. Узаемавыгаднае супрацоўніцтва з ВНУ і іншымі навучальнымі ўстановамі Беларусі.

# ВОЛЬНЫ УНІВЕРСІТЭТ




http://www.freeun.ynnet.org/

Гэта вольная супольнасць людзей, аб'яднаных сумесным пошукам, адукацыяй і сацыяльнай творчасцю.

Вольны універсітэт з'явіўся (і пераважна дзейнічае) у еўрапейскай Расіі, паступова распаўсюджваючы свае праграмы на рэгіёны і краіны Каўказа, Балтыі і Усходняй Еўропы, Цэнтральнай Азіі і Усходу. У праграмах Вольнага універсітэта прынялі ўдзел ужо дзве тысячы чалавек, пераважна студэнты і актывісты грамадскіх аб'яднанняў.

# МАЛАДАЯ ЕЎРОПА

http://www.youngeurope.org/



**"Маладая Еўропа"** – гэта міжнародная сетка моладзі і арганізацый з краін Усходняй і Заходняй Еўропы і Цэнтральнай Азіі, створаная з мэтай садзейнічання грамадскаму і культурнаму развіццю краін у духу агульначалавечых і гуманітарных каштоўнасцяў для пабудовы аб'яднанай Еўропы новага тысячагоддзя.

**Мэты «Маладой Еўропы»**:

– распаўсюджанне эўрапейскіх каштоўнасцяў на тэрыторыі ўсходняй Еўропы;

– распаўсюджанне ўсходніх каштоўнасцяў на тэрыторыю заходняй Еўропы;

– супрацьдзеянне новаму «жалезнаму заслону», які пачынае ўзнікаць паміж краінамі ЕЗ і СНД шляхам супрацоўніцтва моладзі Усходу і Захаду.

МОЛОДЕЖНАЯ СЕТЬ
против расизма и нетерпимости

http://www.ynri.hrworld.ru/

**Моладзевая сетка супраць расізму і нецярпімасці (Youth Network against Racism and Intolerance – YNRI)** – гэта людзі, нефармальныя групы і арганізацыі, аб’яднаныя з мэтай:

– распаўсюджання ідэй талерантнасці, антыфашызму і міжкультурнага ўзаемадзеяння, у першую чаргу сярод моладзі;

– стварэння, развіцця і падтрымкі груп, арганізацый і іншых суполак, якія актыўна супрацьдзейнічаюць праявам ксенафобіі, расізму і нецярпімасці;

– распрацоўкі і рэалізацыі новых форм, метадаў і падыходаў, што спрыяюць культурнай разнастайнасці і ўмацаванню годнасці асобы.



# СУСВЕТНЫ МОЛАДЗЕВЫ РУХ ЗА ДЭМАКРАТЫЮ



http://www.ymd.youthlink.org/

**Сусветны моладзевы рух за дэмакратыю (WYMD)** – гэта глабальная супольнасць моладзі і яе прыхільнікаў, што негвалтоўна працуюць для развіцця дэмакратыі. Рух быў заснаваны групай мала-










дых людзей, што вераць у сумленныя выбары, свабоду слова і правы чалавека і працуюць для развіцця гэтых каштоўнасцяў. Яны вераць, што супольная праца зробіць іх мацнейшымі.

WYMD з'яўляецца адкрытым для любога чалавека, хто прымае прынцыпы і мэты руху.

WYMD – гэта прастора для сустрэч і вольнага абмену ідэямі. Гэта сетка, што злучае моладзь з падобнымі думкамі, магчымасцямі і рэсурсамі. Гэта супольнасць, члены якой працуюць разам і салідарна падтрымліваюць адзін аднаго.

# ЕЎРАПЕЙСКІЯ МАЛАДЫЯ ПАЛІТЫЧНЫЯ ЛІДЭРЫ




**European and Eurasian Young Political Leaders, EEYPL**
**http://www.democraticyouth.net/**

Мэтай стваральнікаў сайта з'яўляецца развіццё дзейснага анлайн-кам'юніці, каб кожны малады і актыўны прадстаўнік сваёй краіны мог нешта новае даведвацца з першых вуснаў ад такіх жа прадстаўнікоў іншых краін, каб была магчымасць запрашаць адзін аднаго на размовы, вучыцца. Сайт DemocraticYouth.net быў створаны ў якасці форума для палітычна актыўнай або палітычна зацікаўленай моладзі, каб дзяліцца ідэямі, метадамі і тэхналогіямі для пабудовы дэмакратыі ў сваім рэгіёне.



# МІЖНАРОДНЫ МОЛАДЗЕВЫ ПРАВААБАРОНЧЫ РУХ

**http://yhrm.org/**




**Міжнародны моладзевы праваабарончы рух** – гэта супольнасць маладых людзей у розных краінах (зараз больш чым у 30 дзяржавах), для якіх вельмі істотнымі з'яўляюцца каштоўнасці правоў чалавека і годнасці асобы. Сетка створана, каб прасоўваць і дапамагаць абараняць гэтыя каштоўнасці, абменьвацца ідэямі, рабіць нешта разам і ўмацоўваць новае пакаленне грамадзянскіх актывістаў. Гэта вольная супольнасць, дзе цэняцца асобы, розныя пазіцыі і метады; непрымальныя толькі гвалт, агрэсія і дыскрымінацыя.

# ФОРС-МАЖОРЫ



*Форс-мажор – сітуацыя, у якую можа патрапіць кожны. Нарадзілася дзіця ці ты з'язджаеш у працяглую вандроўку – калі пры гэтым ты яшчэ і студэнт, то могуць з'явіцца цяжкасці з вучобай. Паспрабуем разгледзець, што можна рабіць у такіх сітуацыях і чым можа дапамагчы родны універсітэт.*

## ЗДАЦЬ СЕСІЮ ЭКСТЭРНАМ І НЕ ПАМЕРЦІ

Час ад часу ў студэнтаў узнікае неабходнасць здаваць сесію экстэрнам. Але, як высветлілася, не ўсё так проста з экстэрнамі ў беларускіх ВНУ. Безумоўна, можна падаць заяву, якую разгледзіць дэканат факультэта, і, магчыма, нават збярэцца камісія, каб ты меў магчымасць здаць сесію. Толькі вось прычына ў цябе павінна быць НУ ВЕЛЬМІ важнай! Калі ты, напрыклад, павінна нарадзіць дзіця падчас сесіі. Ці...










А вось, напрыклад, у БНТУ здаць іспыты экстэрнам увогуле немагчыма, таму лепей і не планаваць. Магчымасць экстэрна ёсць у МДЛУ, але сур'ёзная прычына ў вас таксама павінна быць.

## ШТО РАБІЦЬ, КАЛІ МУСІШ НАДОЎГА З'ЕХАЦЬ?

Як нам сказалі ў дэканаце біяфака БДУ, надоўга лепей увогуле не з'язджаць. Справа ў тым, што пытанні ад'ездаў адсочваюцца нашымі адукацыйнымі структурамі вельмі сур'ёзна. Адносна самога біяфака, то тут немагчыма з'язджаць нават на лета: «Нашыя студэнты маюць летнюю практыку, не адпрацаваць якую нельга», – паведамляе сакратарка дэкана. Калі летняй практыкі ў цябе няма, табе, натуральна, прасцей з'ехаць, скажам, у ЗША на падпрацоўку на лета. Да таго ж у выпадку, калі ты ўсё ж з'язджаеш за мяжу, у Еўропу, скажам, то ты павінен вярнуцца да 1 верасня. Студэнты, якія не вяртаюцца ва універ да вышэйназванага тэрміну, аўтаматычна адлічваюцца. Таму, калі вам неабходна з'ехаць на працяглы тэрмін сярод навучальнага года, лепей узяць акадэмічны адпачынак.

**Дар'я Сухарукава, студэнтка 4-га курса БДУ, фак. міжнародных адносін:**



– *Ва універсітэтах, нават у моўных, як правіла, з насцярожанасцю ставяцца да ад'езду студэнтаў на працу за мяжой (хаця самі цудоўна разумеюць, што гэта выдатны шанец павучыць мову!). Выкладчыкі палохаюць на лекцыях: маўляў, нават і не спрабуйце, усё адно грошай не заробіце, нажывяце сабе шэраг праблем, як жыццёвых, так і звязаных з вучобай (з-за чаго многія і перадумваюць падаваць дакументы на ўдзел у праграмах). Перашкодай часта з'яўляецца і немагчымасць здаць сесію датэрмінова. Гэта праблемы, з якімі сутыкаецца студэнт!*

*Адносна працы за мяжой, то я магу сказаць толькі тое, што гэта выдатная магчымасць зведаць школу жыцця, зарабіць грошай, значна палепшыць веды замежнай мовы і, натуральна, паглядзець свет. Я лічу, што гэта нікому ў жыцці не пашкодзіць, хутчэй наадварот.*

# КАЛІ ПЕРМАНЕНТНА ПУСТА Ў КІШЭНІ...




Ні для каго не сакрэт, што студэнты – людзі небагатыя, хутчэй наадварот. Адной стыпендыі ненадоўга хапае, калі яна ёсць, вядома. Але калі да нядаўняга часу студэнты маглі карыстацца нейкімі льготамі ды матэрыяльнымі дапамогамі, то цяпер і гэтага няма.  Ці засталіся яшчэ якія-небудзь выплаты з боку дзяржавы для студэнтаў? Адзінае з таго, што могуць атрымліваць студэнты, – гэта кампенсацыя 50% аплаты за праезд. Хаця кампенсацыя павінна закранаць усіх студэнтаў дзённай формы навучання, на справе яе атрымліваюць толькі студэнты-бюджэтнікі. Кампенсацыя  мае памер 10–12 тысяч рублёў, што складае палову кошту праязнога на адзін від транспарту на месяц. Гэта пры сітуацыі, калі дабірацца да універа на адным транспарце – вялікая ўдача, якая не кожнаму выпадае. Ужо не кажучы пра іншагародніх студэнтаў, для якіх выдаткі на праезд дадому сталі зусім не маленькімі. Але каго гэта хвалюе? А ў дадатак да ўсяго, паводле слоў дэканата аднаго з магілёўскіх універсітэтаў, калі ты выязджаў за мяжу, то ў матдапамозе будзе адмоўлена. Логіка жалезная: калі ёсць за што ездзіць, значыць, грошы ёсць. Ну адкуль ім ведаць пра аўтастоп?



Можна дадаць, што захаваны сацыяльныя стыпендыі для студэнтаў-бюджэтнікаў, якія мелі пераздачы падчас экзаменацыйнай сесіі або якім не хапіла балаў да базавай стыпендыі. Каб атрымаць такога роду матэрыяльную дапамогу, трэба падаць заяву ў дэканат. Сацыяльныя стыпендыі могуць выплачвацца на працягу двух семестраў за ўвесь час навучальнага працэсу.










# ПЕРАВОД У ІНШУЮ ВНУ, АКАДЭМКА, АДНАЎЛЕННЕ



## Аднаўленне

Аднавіцца ў ВНУ можна на любым курсе, акрамя студэнтаў, адлічаных пасля першай сесіі: каб вярнуцца ва універ, ім неабходна паступаць зноў. Студэнт мае права аднавіцца ў ВНУ на тую спецыяльнасць, на якой раней навучаўся, праз любы пажаданы тэрмін, аднак пры ўмове, што ён пацвердзіць свае веды па прадметах, якія вывучаюцца на дадзены момант. Курс, на які ён можа аднавіцца, вызначаецца ВНУ. Выключэнне складаюць студэнты ваенных спецыяльнасцяў: яны маюць права аднаўляцца не раней чым праз 10 месяцаў і не пазней чым праз тры гады пасля выключэння.

Калі ты аднаўляешся ва універы, прычынай для адмовы можа стаць толькі недахоп навучальных месц. Па гэтай жа прычыне (недахоп бюджэтных месц) аднаўленне часцей за ўсё адбываецца на платную форму навучання.

Аднаўленне звычайна адбываецца падчас летніх або зімовых вакацый, гэта значыць перад пачаткам навучальнага семестра.

## Акадэмічны адпачынак

Акадэмічны адпачынак можа быць дадзены студэнту з-за хваробы яго ці яго родных, фінансавых цяжкасцяў ці па іншых прычынах. Такі адпачынак дазваляецца тэрмінам не больш за год на працягу ўсяго навучання.

## Перавод з адной ВНУ ў іншую

Такое таксама магчыма, адбываецца звычайна паміж факультэтамі розных ВНУ з адной і той жа спецыяльнасцю.

Студэнтам, якія хочуць перавесціся, трэба ведаць, што перавод магчымы толькі ў выпадку, калі навучальная праграма факультэтаў адрозніваецца не больш чым на 5 прадметаў. Перавод тэарэтычна магчымы і на платныя, і на бюджэтныя месцы, але на практыцы студэнты трапляюць толькі на платныя месцы, бо бюджэтныя звычайна занятыя. Да таго ж, каб перавесціся, напрыклад, у БДУ, трэба заплаціць 75 тысяч за працэдуру пераводу і ўнесці аплату за навучанне ў памеры, вызначаным факультэтам. Пры гэтым аплачваецца кожны прадмет акадэмічнай розніцы – па гэтых прадметах таксама неабходна атрымаць атэстацыю.

У астатнім перавод паміж вышэйшымі навучальнымі ўстановамі не складае праблем.





## ”АБ’ЯЎЛЯЮ ВАС МУЖАМ І ЖОНКАЙ!”

Так сталася, што ты знайшоў сваё каханне падчас навучання ва універсітэце і вы вырашылі зафіксаваць гэты цудоўны факт перад дзяржавай. Як гэта можа адбіцца на вашым студэнцкім жыцці? Чым дапаможа родны універ?










... Ды нічым. На жаль, пасля адмены льготаў ніякай матэрыяльнай дапамогі чакаць не даводзіцца. Шанец на тое, што вас размяркуюць працаваць пасля ВНУ ў адно месца (калі вы навучаецеся на бюджэце) таксама невялікі. Як нам кажуць у дэканаце: *"Толькі калі будзе такая магчымасць"*. Іншая справа, што новаўтвораныя сем'і часам адрозніваюцца акадэмічнай непасляховасцю і ненаведваннем заняткаў. Але гэта ўжо зусім іншае пытанне.

# КАЛІ НАДОЎГА ЦЯЖКА ЗАХВАРЭЎ...



Яшчэ ў школе можна пачуць, што наша моладзь надзвычай хваравітая. А што ўжо пра універ казаць? Тут і доўгія лекцыі, і практычныя заняткі, і задаюць шмат. Пры гэтым пагуляць жа трэба... Чыё здароўе такое вытрымае? Часам здараецца так, што сумяшчаць хваробу і навучанне ў ВНУ становіцца немагчымым. Што тады?

Ты можаш папрасіць акадэмічны адпачынак. Што для гэтага трэба? Заключэнне ўрачэбна-кансультацыйнай камісіі спецыяльнай формы. Загад афармляецца непасрэдна рэктарам універсітэта і выдаецца на працягу 5 працоўных дзён. Калі ў цябе платная форма навучання, то можаш радавацца: грошы за навучанне падчас акадэмкі здымаць не будуць. І не забудзься, што дата заканчэння акадэмічнага адпачынку – дзень, папярэдні даце пачатку семестра, у каторым ты працягнеш навучанне. З акадэмкай не ўсё так страшна, але лепш, вядома, не хварэць.

# ДЗЕТКІ – ЖЫЦЦЯ КВЕТКІ



З тэлевізійных экранаў нас заклікаюць паляпшаць дэмаграфічнае становішча ў краіне, а мама з кухні крычыць пра тое, што спачатку трэба атрымаць вышэйшую адукацыю і ўладкавацца на працу, а потым ужо думаць пра дэмаграфічнае становішча Радзімы. Але што зробіш, калі паслухаліся тэлевізара? І мама ўжо не злуецца, а пачынае прыдумляць імя будучаму ўнуку і ўнучцы. Аднак вось з грашыма ў маладой сям'і – праблема, ды і што чакае з універам?

Згодна з законам Рэспублікі Беларусь ты маеш права на атрыманне матэрыяльнай дапамогі. Дзяўчаты! Толькі не забудзьцеся стаць на ўлік у жаночай кансультацыі. Лепш зрабіць гэта да 12 тыдняў цяжарнасці, тады і за гэта вам дадуць дапамогу.



Што рабіць з адукацыяй? Можна ўзяць акадэмічны адпачынак. Ён лічыцца як дэкрэтны, і максімум, на што ты можаш разлічваць, – 3 гады. Вядома, з адпачынку можна выйсці і раней. Але практыка падказвае, што сумяшчаць навучанне і выхаванне зусім маленькага дзіцяці – справа цяжкая і не для ўсіх рэальная.



# СМЕРЦЬ БЛІЗКІХ: КУДЫ КІНУЦЦА?

У нашым жыцці даволі шмат балючых момантаў. Адным з іх можа стаць смерць блізкага табе чалавека: маці ці бацькі ці, што яшчэ горш, абодвух. Калі так атрымалася, што памёр адзін з бацькоў, то ты маеш права звярнуцца ў дэканат свайго факультэта і папрасіць матэрыяльную дапамогу, якую табе будуць абавязаны выплаціць.










Калі так здарылася, што студэнт у гэтым свеце застаўся зусім адзін, то ў фінансавым плане бацькоў павінна замяніць дзяржава. Ты застаешся на забеспячэнні да 23 гадоў і да заканчэння універсітэта. Дзяржава ж забяспечыць тваё існаванне і адзін месяц да ўладкавання на працу.

Не хвалюйся: грошы, якія выдаткоўвала на цябе дзяржава, вяртаць не трэба. І спадзяёмся, што парады такога кшталту мала каму спатрэбяцца.

# ПАРАДЫ ДЛЯ ГРАМАДСКА АКТЫЎНЫХ СТУДЭНТАЎ!

*Ты актыўна ўдзельнічаеш у грамадскім жыцці роднай краіны? Маеш «няправільную» пазіцыю і часта выказваеш яе публічна? Калі так, то наступныя парады для цябе.*

## Як не вылецець з універсітэта[22]



**1. Запазычанасці.** Наяўнасць прынамсі адной запазычанасці робіць цябе надзвычай слабым, калі іх дзве ці тры – лічы, што цябе ўжо няма ў сценах роднага ўніверсітэта, і дапамагчы тут ужо ніхто не зможа. Але ў выпадку ўпэўненасці ва ўласных ведах пасля дзвюх няўдалых пераздач можна ў пісьмовым выглядзе папрасіць дэкана дазволіць здаць залік (іспыт) камісіі. У ёй ужо, як мінімум, тры чалавекі, паўздзейнічаць на якіх у патрэбным накірунку ўжо складаней, чым на аднаго выкладчыка.

**2. Дадатковыя і факультатыўныя дысцыпліны.** Ёсць такія дысцыпліны, на якія студэнты, як правіла, мала звяртаюць увагі. Гэта медыцынская падрыхтоўка, фізкультура, бяспека працы і інш. Але запазычанасці па іх вядуць да тых жа наступстваў, што і па асноўных.



**3. Вельмі маладыя і вельмі старыя выкладчыкі без навуковых званняў.** Прымусіць дзейнічаць у патрэбным накірунку такіх людзей нашмат лягчэй, бо ў выпадку звальнення ім цяжка знайсці іншую працу. Што ніколі не зробіць паважаны прафесар, зробіць дзяўчына-аспірантка.



**4. Асабістая непрыязнасць да вас з боку актывістаў БРСМ, параст і прафсаюзнікаў.** Могуць «са злосці» нагаварыць такога, што кіраўніцтва ВНУ пастараецца пазбавіцца ад цябе як мага хутчэй. Звычайна вельмі зайздросцяць тым студэнтам, якія пастаянна выязджаюць за межы краіны ды могуць даць волю сваёй фантазіі, адпомсціць за нешта.

**5. Канфлікт з намеснікам дэкана па выхаваўчай працы.** Такога пажадана не дапускаць. Людзі на падобных пасадах, як правіла, не займаюцца сур'ёзнай навуковай працай і з гэтай прычыны моцна залежаць ад кіраўніцтва. Не дражні іх самалюбства, старайся лішні раз не спрачацца па дробязях і не паказваць характар.

**6. Прагулы.** Яны павінны быць зафіксаваны належным чынам: адзначаны ў журнале ўліку наведванняў (вось ён, фактар старасты!), які мусіць весціся рэгулярна і быць аформлены адпаведным чынам. Могуць быць праверкі наведванняў з боку дэканата, але яны не носяць татальнага










характару. Ведамасці «ад рукі», у якіх наведванне адзначаюць выкладчыкі, «маюць моц», калі твае прагулы адтуль перанесены ў журнал уліку наведванняў. За кожны праведзены занятак мусіць быць подпіс выкладчыка і пазначана яго тэма на асобнай старонцы.

**7. Агульныя адносіны.** Не сакрэт, што адносіны да грамадска актыўных студэнтаў у розных ВНУ і на розных факультэтах розныя. Пры гэтым у рэгіянальных універсітэтах, як правіла, горш, чым у сталіцы. Яскравы прыклад – Зміцер Жалезнічэнка з Гомеля. Яго выключылі за палітычную актыўнасць, і пасля шэрага судоў з універсітэтам ён апынуўся ў войску.

## Што рабіць, калі вас хочуць схіліць да супрацоўніцтва з КДБ[23]



Выклік у дэканат, размова з невядомымі, але дасведчанымі ў вашым прыватным жыцці дзядзькамі, прапанова даць інфармацыю ў абмен на вырашэнне праблем з вучобай, просьба нікому не казаць пра размову, прапанова падпісаць пагадненне пра супрацоўніцтва... У апошні час даводзілася нярэдка выслухоўваць падобныя гісторыі ад моладзі: хлопцаў і дзяўчат, студэнтаў і школьнікаў. Як вы ўжо здагадаліся, гаворка ідзе пра КДБ.

На падставе шматлікіх аповедаў складаецца пэўнае ўяўленне пра сістэму працы чэкістаў з моладдзю, іх падыходы, якія, варта адзначыць, у большасці выпадкаў з'яўляюцца аднатыпнымі. У гэтай частцы мы паспрабуем даць парады, як варта сябе паводзіць пры назойлівых сустрэчах з прадстаўнікамі гэтага ведамства. Змадэлюем падобную сітуацыю.

Зыходзячы з практыкі, адзначым, што такога кшталту кантак-

ты адбываюцца, як правіла, па месцы вучобы – ва універсітэце. Студэнта, інфармацыя пра грамадска-палітычную дзейнасць якога ўжо патрапіла ў поле зроку КДБ (раней затрымліваўся ў «нехарошых» кампаніях ці падчас несанкцыянаваных акцый, за распаўсюджанне друкаваных матэрыялаў і г.д.), выклікаюць у дэканат, каб паразмаўляць з ім пра пытанні, якія тычацца навучальнага працэсу. Калі студэнт прыходзіць, там (дэкан ці яго намеснік) паведамляюць яму пра тое, што з ім хочуць паразмаўляць двое таварышаў (альбо адзін). Сам дэкан, як правіла, пры далейшай сустрэчы не прысутнічае.

Вось тут і пачынаецца самае цікавае. Двое дзядзькоў прадстаўляюцца якімі-небудзь Іванамі Сяргеевічамі і між іншым намякаюць вам: маўляў, спадзяёмся, што вы разумееце, з якой мы «арганізацыі», альбо адкрыта паведамляюць, што яны з КДБ.

Далей «харошыя дзядзькі» паспрабуюць паказаць вам сваю абазнанасць у вашым прыватным жыцці. Распавядуць, што бачылі вас у кампаніі «кепскіх» хлопцаў з «Маладога фронту» ці з ЗБС, а таксама, што ім усё вядома пра вашу апошнюю паездку ў Польшчу, Літву ці Украіну. Або пра іншыя факты з вашага жыцця. Мэта гэтых дзеянняў – паказаць вам, што ўсёбачнае вока КДБ сочыць за вамі і ўдзень і ўначы, а «кантора» ведае пра вас усё. Іх цікавіць найперш ваша псіхалагічная рэакцыя на пачутае. І калі вы напалохаліся, нервуецеся – тое, што трэба, дзядзькам можна паступова падыходзіць да іншых частак размовы. Далей яны скажуць вам, што іх вельмі цікавіць інфармацыя пра дзейнасць вядомых вам асоб, моладзевай групы і г.д. Затым вам паабяцаюць паспрыяць вырашэнню ўсіх вашых праблем ва універсітэце (здачы “хвастоў” на сесіях, добраму размеркаванню, вырашэнню праблем з войскам і г.д.) ці нейкага іншага пытання. Далей дзядзькі дадуць вам нумары іхніх мабільных тэлефонаў і час на роздум. Праз тры (пяць, сем) дзён яны паабяцаюць вярнуцца да размовы. А на развітанне дзядзькі папросяць вас нікому не казаць пра вашу размову: гэта ж канфідэнцыяльна, вы ж дарослы і ўсё разумееце…

Дык што ж рабіць? Вы ў разгубленасці, вамі авалодаў страх.


















Настойліва раім вам: не палохайцеся і ні ў якім выпадку не паказвайце ім, што вы нервуецеся. Момант нечаканасці першай сустрэчы – пачатак далейшага стандартнага метаду працы з вамі супрацоўнікаў КДБ. Спачатку паспрабуем разабраць тое, што трэба было зрабіць пры размове адразу.

На пачатку размовы папрасіце невядомых вам Іванаў Сяргеевічаў прадставіцца і прад'явіць вам службовыя пасведчанні. Абавязкова запомніце, а лепей не спяшайцеся і запішыце іх прозвішчы. Пры адмове з іх боку прадставіцца, паведаміце, што працягу вашай размовы не будзе, паколькі з невядомымі вам асобамі вы не размаўляеце. Разварочвайцеся і смела вяртайцеся ў аўдыторыю (ці куды трэба па сваіх справах). Калі яны ўсё ж прад'явяць вам свае службовыя пасведчанні, пацікаўцеся, што ім ад вас трэба і чаму б ім не выклікаць вас афіцыйна, праз позву (павестку). Яны, вядома, могуць сказаць, што ім трэба ўзяць у вас тлумачэнні альбо нават паказанні сведкі па нейкай там справе. У дадзенай сітуацыі зноўку ж патрабуйце выклікаць вас афіцыйна, позвай, у якой будзе ўказана: хто, куды і ў якасці каго вас будзе выклікаць. Скажыце, што прыйдзеце не адзін, а з адвакатам, паколькі арт. 62 Канстытуцыі гарантуе грамадзянам краіны юрыдычную дапамогу (гэта на выпадак, калі яны пачнуць вам распавядаць, што сведкам і пры дачы тлумачэнняў адавакат "не палагаецца"). Калі ж яны будуць настойваць на дачы нейкіх там тлумачэнняў, нагадайце дзядзькам, што вы маеце права ніякіх тлумачэнняў не даваць!

Калі вас усё ж афіцыйна выклікалі ў КДБ павесткай, раім вам з'явіцца па выкліку, але катэгарычна адмовіцца ад дачы якіх небудзь тлумачэнняў. Таксама раім вам не падпісваць і не запаўняць ніякіх папер, анкет, пратаколаў і г.д. Адмовіцца ад дачы тлумачэнняў – ваша законнае права! Адмова ад дачы тлумачэнняў не цягне за сабой ніякіх юрыдычных наступстваў.

Што датычыцца допыту сведкі, то гэта працэсуальнае дзеянне, якое рэгулюецца нормамі Крымінальна-працэсуальнага кодэкса РБ. Сведка дапытваецца па нейкай канкрэтнай узбуджанай крымінальнай справе.



Паводле арт. 216 КПК РБ, сведкі выклікаюцца на допыт позвай, дзе павінна быць указана: хто і ў якасці каго выклікаецца, час яўкі на допыт, адрас. Позва ўручаецца асобе, якая выклікаецца, пад роспіс. Таму, калі вам будуць казаць, што хочуць дапытаць вас як сведку, патрабуйце афіцыйнай позвы. У любым выпадку паспрабуйце звесці вашу размову да мінімуму і дайце ім зразумець, што размаўляць з імі ў вас няма ніякага жадання.





Пасля размовы адразу ж паведамце пра гэту сустрэчу незалежным сродкам масавай інфармацыі і праваабаронцам. Гэта важна зрабіць, паколькі пасля гэтага далейшыя сустрэчы з “таварышамі”, як правіла, не адбываюцца. Каму ж патрэбны інфарматар, пра кантакты якога з КДБ усім вядома? Калі вам усё ж прапанавалі супрацоўнічаць, памятайце, што, паводле арт. 22 Закона Рэспублікі Беларусь “Аб органах дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь” ад 3 снежня 1997 г., супрацоўніцтва з органамі мае выключна добраахвотны характар. Гэта значыць з вашай згоды. Таму ўсялякія пагрозы “таварышаў” за адмову ад супрацоўніцтва будуць насіць незаконны характар. Калі ж яны былі, звяртайцеся са скаргай у пракуратуру і абавязкова надавайце такім фактам публічны характар.











Калі вас выклікалі ў Камітэт для дачы паказанняў у якасці










сведкі, вам трэба ведаць наступнае.

Паводле арт. 215 КПК РБ допыт адбываецца па месцы вытворчасці папярэдняга следства. Следчы, дазнавальнік маюць права, калі прызнаюць гэта неабходным, правесці допыт па месцы знаходжання асобы, якая дапытваецца.

Паводле арт. 216 КПК РБ сведка выклікаецца на допыт позвай. У ёй павінна быць указана: хто і ў якой якасці выклікаецца, да каго і па якім адрасе, час яўкі на допыт, а таксама наступствы няяўкі без уважлівай прычыны. Позва ўручаецца асобе, якую выклікаюць, пад роспіс. Пры адсутнасці гэтай асобы позва ўручаецца пад роспіс каму-небудзь з поўнагадовых членаў сям'і альбо адміністрацыі па месцы працы, якія абавязаны перадаць яе асобе, якую выклікаюць на допыт.

Такім чынам, першае, што трэба зрабіць, калі вас вусна выклікаюць на допыт у якасці сведкі: запатрабаваць афіцыйнага выкліку вас на допыт – праз позву.

Другім важным аспектам з'яўляецца тое, што перад пачаткам допыту следчы павінен, паводле арт. 217 КПК РБ, паведаміць асобе, якую выклікалі на допыт, па якой крымінальнай справе яна будзе дапытана, растлумачыць правы і абавязкі, прадугледжаныя артыкуламі КПК, у тым ліку і права адмовіцца ад дачы паказанняў у адносінах яго самога, членаў яго сям'і і блізкіх сваякоў. Асоба, якая выклікана на допыт у якасці сведкі, папярэджваецца аб крымінальнай адказнасці за ўхіленне альбо адмову ад дачы паказанняў і за дачу загадзя няпраўдзівых паказанняў.

Памятайце, што ўвесь ваш допыт мусіць фіксавацца ў пратаколе допыту, з якім па яго завяршэнні, вас абавязаны азнаёміць. Патрабуйце вядзення пратакола допыту, адмаўляйцеся размаўляць са следчым з воку на вока. Калі вы ўспрымаеце пытанні, якія задае вам следчы, як скіраваныя супраць вас, адмаўляйцеся адказваць на іх, матывуючы сваю адмову гарантаваным вам арт. 27 Канстытуцыі правам не даваць паказанняў супраць сябе самога.

І напрыканцы яшчэ некалькі парад. Паспрабуйце мініміза-

ваць колькасць вашых сустрэч з прадстаўнікамі КДБ. Памятайце, чым менш вы з імі сустракаецеся, тым лепей для вас. Не падпісвайце ні ў якім выпадку кантрактаў і пагадненняў аб супрацоўніцтве з КДБ. Калі ж вас змусілі падпісаць нейкія паперы, памятайце, што супрацоўніцтва павінна ажыццяўляцца толькі па вашай згодзе, а не пад прымусам.

## Калі вы патрапілі ў міліцыю...[24]

*Гэтыя парады карысны толькі для тых выпадкаў, калі вы патрапілі па «палітычных матывах» або проста так (здараецца і такое).*



**1. Не качайце правы адразу, як толькі патрапілі ў міліцыю.** Ёсць верагоднасць таго, што вы з аддзялення выйдзеце праз тры гадзіны. Наяўнасць каля будынка РУУС праваабаронцаў, прэсы (асабліва незалежнай), лідэраў партый гэтыя самыя шанцы памяншае. Гэта значыць чым меней інфармацыйная хваля, тым болей шанцаў дамовіцца.



**2. Званкі ад таварышаў, сяброў, неабыякавых людзей з пытаннямі: «За што затрыманы такі-та? У чым яго абвінавачваюць? Калі адпусцяць?»** з'яўляюцца даволі сумніўнымі з пункту гледжання эфектыўнасці, але даволі карыснымі з пункту гледжання падтрымкі баявога духу.

**3. Не верце міліцыі.** Вы для іх – не чалавек са сваімі поглядамі, позіркамі і жыццёвым досведам, а статычная адзінка. Чым меней праблем вы ім створыце, тым прасцей будзе іх жыццё. А мінімум праблем можна забяспечыць: напрыклад, схлусіць, што “калі ты сябе будзеш ціха паводзіць і падпішаш тут, тут і тут, то праз дзве гадзіны паедзеш дамоў”.

**4. Пастарайцеся ўсіх, каго трэба, абтэлефанаваць самастойна.** Нават бацькоў. Асабліва бацькоў – ёсць ша-


нец нармальна ўсё патлумачыць. Непасрэдна з аддзялення. Не зважаючы на забарону карыстання мабільнай сувяззю.



**5. Калі вы бачыце, што парушаюцца вашы правы, запамінайце прозвішчы, пасады, званні супрацоўнікаў міліцыі, якія ў гэтым вінаватыя.** Далей у выпадку хамскага, непаважлівага стаўлення пішацца скарга ў кнігу заўваг і прапаноў, якая мусіць быць у кожным РУУС. Дарэчы, калі вам яе не выдалі, гэта падстава паскардзіцца ў вышэйстаячы УУС. Калі супрацоўнікі міліцыі парушылі закон, пішацца скарга ў пракуратуру раёна.









Нават калі сітуацыя спрэчная і ў выніку супрацоўнікі міліцыі будуць прызнаны правымі, нерваў ім разбіральніцтва папсуе парадкам. У наступны раз кожны з іх тройчы падумае перад тым, як камусьці нахаміць. Але гэта ўсё трэба рабіць, калі вы ўжо выйшлі на волю. Высвятленне адносін такім чынам ды і ўвогуле любыя наезды на міліцыю зводзяць на нуль імавернасць кампрамісу.





**6. Паводзьце сябе ў межах закона: не лайцеся, не абражайце супрацоўнікаў міліцыі.** Але пры гэтым не давайце і сябе ў крыўду, не пакідайце зняважлівыя заўвагі без адказу. Натуральна, не датыкайцеся да міліцыянтаў і не аказвайце супраціўлення – гэта можа прывесці да крыміналу.

**7. Уважліва чытайце ўсе дакументы.** Упішыце ў пратакол затрымання (і толькі туды, і толькі калі ён запоўнены належным чынам) свае тлумачэнні – гэта адзінае, што мае сэнс падпісваць. Запішыце туды ўласнаручна дату і час затрымання (або запатрабуйце зрабіць гэта ад супрацоўніка міліцыі). Тлумачальныя, напісаныя не на бланках, дакументамі не з’яўляюцца, таму або адмаўляйцеся гэта пісаць (ніякіх юрыдычных наступстваў гэта не мае), або «ўключайце дурня»: ішоў міма, прыбеглі нейкія людзі, потым іх забрала міліцыя і мяне разам з імі.



# СПАСЫЛКІ


1. Закон РБ ад 11 ліпеня 2007 г. № 252-З «Аб вышэйшай адукацыі».
2. Загад Міністэрства адукацыі № 235-А ад 22.08.94 г. «Аб зацвярджжэнні Палажэння аб курсавых іспытах і заліках у вышэйшых навучальных установах».
3. Указ прэзідэнта РБ № 126 ад 28 лютага 2006 г. «Аб некаторых пытаннях платнага навучання ў дзяржаўных установах, што забяспечваюць атрыманне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі» і пастанова Савета Міністраў РБ ад 20 красавіка 2004 г. № 38 «Аб зацвярджэнні Інструкцыі пра кошты платнага навучання ў дзяржаўных установах, што забяспечваюць атрыманне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі».
4. Указ прэзідэнта РБ ад 28 лютага 2006 г. № 126 «Аб некаторых пытаннях платнага навучання ў дзяржаўных установах, што забяспечваюць атрыманне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі».
5. Пастанова Савета міністраў РБ ад 26 траўня 2006 г. № 665 «Пра зацверджанне Палажэння пра парадак прадастаўлення зніжак са сфармаванага кошту навучання студэнтам і навучэнцам дзяржаўных устаноў, што забяспечваюць атрыманне вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай адукацыі і памерах гэтых зніжак».
6. Пастанова Міністэрства адукацыі РБ ад 13 траўня 2005 г. № 39 «Аб зацвярджэнні Інструкцыі аб выдачы пісьмовых дазволаў на накіраванне грамадзян РБ, што навучаюцца ў арганізацыях сістэмы адукацыі РБ на вучобу за мяжу».
7. Падрыхтавана пры дапамозе http://eduabroad.ru/journal/journal/08.10.2006/4.
8. Падрыхтавана пры дапамозе http://www.interfax.by/article/6089.
9. Паводле арт. 49 Закона «Аб адукацыі» РБ.
10. http://generation.by/news1467.html.
11. Пастанова Савета Міністраў РБ ад 14.10.2002 г. № 1423 «Аб зацвярджэнні палажэння аб размеркаванні выпускнікоў устаноў адукацыі, якія атрымалі прафесійна-тэхнічную, сярэднюю спецыяльную або вышэйшую адукацыю ў дзённай форме атрымання адукацыі за кошт сродкаў рэспубліканскага і (або) мясцовых бюджэтаў» (у рэд. пастаноў Савета Міністраў ад 24.12.2003 г. № 1679, ад 23.09.2006 г. № 1254).
12. Указ прэзідэнта РБ ад 7.09.2007 г. № 413 «Аб удасканаленні сістэмы ўліку грамадзян па месцы жыхарства і месцы знаходжання».
13. Пастанова Савета Міністраў РБ ад 19.12.2006 г. № 1681 «Аб зацвярджэнні палажэння аб парадку і ўмовах прадастаўлення першага працоўнага месца выпускнікам дзяржаўных устаноў адукацыі, асобам з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і ваеннаслужачым тэрміновай службы, звольненым з Узброеных сіл або іншых войскаў ці вайсковых фарміраванняў РБ».
14. Ад 10.12.2007 г. № 1702.



















15. Арт. № 96 Працоўнага кодэкса РБ.
16. Ад 31.08.2000 г. № 1359.
17. У адпаведнасці з Указам прэзідэнта РБ ад 20.11.1996 г. № 477 (БДУ), пастановай Савета Міністраў РБ ад 17.01.1997 г. №6 (БНТУ), пастановай Савета Міністраў РБ ад 17.04.1997 г. № 347 (БДЭУ), пастановай Савета Міністраў ад 12.06.1997 г. № 698 (БДПУ)
18. П. 4 арт. № 35 Працоўнага кодэкса РБ.
19. У адпаведнасці з артыкулам № 41 ПК РБ.
20. п.1, 2, 4–9 арт. № 42, а таксама паводле абставін, прадугл. у пп. 1–3, 5, 6 арт. № 44 ПК РБ.
21. ад 27.11.2000 г. № 631.
22. http://watcher-interio.livejournal.com/10880.html.
23. http://spring96.org/be/news/17803/.
24. http://reaktivny-puz.livejournal.com/76135.html.



Дапаможнік па правах студэнтаў створаны студэнцкай ініцыятывай пры падтрымцы Нарвежскага Хельсінкскага камітэта.

**Кіраўнік праэкту:** Крысціна Карчэўская
**Аўтары і перакладчыкі:** Ната Ісаевіч, Паліна Уліна, Аляксандра Аліева, Вера Янушэўская, Юлія Ліндарка, Крысьціна Карчэўская.
**Мастакі:** Маргарыта Айвазава & С$^{O}$, Ларыса Скрыган
**Фатографы:** Сяргей Паўлаў, Уладзімір Вылінскі, Сяржук Голік, Крысціна Карчэўская, Аляксандр Мазуркевіч, а таксама выкарыстаны здымкі з web-прасторы.

Пры напісанні артыкулаў таксама былі выкарыстаны матэр'ялы з моладзевых web-старонак **generation.by** ды **uff-by.org** (аўтары Дар'я Слабчанка, Мікіта Грычын, Максім Карлюк, Уні Вера, Зміцер Папко), а таксама артыкул Валянціна Стэфановіча.

**Дызайн вокладкі:** Уладзімір Вылінскі
**Вёрстка:** Уладзімір Вылінскі, Крысціна Карчэўская
**Ідэйны натхняльнік:** Наста Кананові

**Рэдактар:** Тацяна Равяка
**Тэхнічны рэдактар:** Уладзімір Вылінскі

**Будзь у тэме!**
Усё, што вы хацелі ведаць пра студэнтаў,
але не ведалі ў каго спытаць
*Дапаможнік па правах студэнтаў*

Падпісана да друку: 01.05.2008 г., фармат 14,8x21. Папера афсетная.
Наклад 500 паас. Зак. 1.

Надрукавана ў друкарні «Gudas». A. Varta, 25.2646, Vilnus, Lithuania.